# Тэрарысты атакавалі Парыж

Старонка 3.

№ 43 (928) 18 лістапада 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва.

Старонка 2.

## Тут вам не рады

Прыезды расійскіх прапагандыстаў пачынаюць раздражняць беларусаў.

Дзве мінскія ўстановы адмянілі запланаваныя выступы Мікалая Старыкава. А на сустрэчы ў «Доме Масквы» маладафронтаўцы яго асвісталі.

Выступ расійскага прапагандыста пачаўся з патасоўкі. Некалькі юнакоў пачалі крычаць на адрас спікера «Чамадан—вакзал—Расія», як толькі той узяў у рукі мікрафон. Ахова візіцёра некалькі хвілін тузалася з хлопцамі, пасля чаго Старыкаў працягнуў выступ.

Пра што ён казаў?

Захад — кепскі, Расія — справядлівая. Вось сутнасць ягонай прамовы: «Краіны Захаду страцілі арэол мучанікаў за свабоду», «краіны Захаду развязалі грамадзянскую вайну ва Украіне», «краіны Захаду падтрымліваюць ІД».

Паводле Старыкава, ля межаў Расіі ходзяць галодныя заходнія ваўкі і клацаюць зубамі на яе паспяховасць, ствараючы вакол Расіі «пояс нестабільнасці», бо ім гэта выгадна, бо яны ўжо не такія моцныя, як раней.

І менавіта для таго, каб супрацьстаяць экспансіі англасаксаў, трэ' было стварыць Еўразійскі саюз.

Пра пацяпленне адносінаў паміж Беларуссю і ЗША Старыкаў сказаў так: «Не трэба верыць іх усмешкам. Гэтак Баба-Яга (ЗША) хоча зацягнуць хлопца (Беларусь) у сваю хату, каб яго з'есці ці зрабіць яшчэ чаго непрыстойнага».

«Я вельмі люблю Беларусію, — расчуліўся Старыкаў. — Увогуле не бачу розніцы паміж беларусамі, украінцамі і рускімі. Мы ўсе адзіны рускі народ».

Пытанні з залы былі пераважна «сцэнарнымі».

Працяг на старонцы 2.




У Мінску на будынку інтэрната па адрасе Рабкораўская, 15 з'явілася графіці брытанска-аўстралійскага вулічнага мастака Гвіда ван Хельтэна (Guido Van Helten). Гвіда прыехаў у беларускую сталіцу ў межах фестывалю манументальнага мастацкага роспісу Urban Myths і пакінуў на сцяне дзевяціпавярховіка выяву беларускай дзяўчыны ў вышыванцы.

## Лукашэнка: Прапановы МВФ не выклікаюць у мяне алергіі

Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком місіі Міжнароднага валютнага фонду.

Місія МВФ на чале з Пітэрам Долманам будзе ацэньваць гатоўнасць беларускіх уладаў рэфармаваць эканоміку.

Кіраўнік Беларусі заявіў, што знаёмы з прапановамі МВФ. «Павінен сказаць, што ў мяне ніводны пункт, які прапануецца, не выклікае ніякага адрынання, ніякай алергіі», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Паводле яго слоў, прапановы фонду заснаваныя на абсалютна аб'ектыўных законах эканомікі. «Формула адна: атрымліваеш паслугу — плаці за гэтую паслугу ў поўным аб'ёме. Няхай гэта будзе электрычнасць, цяпло, транспартнае абслугоўванне і гэтак далей», — сказаў ён.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што «пытанне толькі ў адным — у тэрмінах».

«Мы таксама нацэлены на тое, каб прапановы, якія мы выпрацавалі разам з вамі, рэалізаваліся ў лімітава кароткія тэрміны».

Лукашэнка дадаў, што памятае вельмі дзейсную сустрэчу ў Нью-Ёрку з дырэктаркай-распарадчыцай МВФ Крысцінай Лягард.

Ён прызнаўся, што пасля гэтай сустрэчы ён іншымі вачыма паглядзеў на адносіны Беларусі з Міжнародным валютным фондам і на МВФ наогул.

Лукашэнка таксама адзначыў, што «мы не маем намеру ламаць тую схему сацыяльнай дзяржавы, якая намі выпрацавана».

Сума магчымага крэдыту МВФ ацэньваецца ў 3 млрд даляраў. Грошы ад МВФ даюцца пад найніжэйшы ў свеце працэнт. Акрамя таго, супраца з МВФ — пазітыўны сігнал для буйных інвестараў. Аднак Фонд рэдка дае грошы проста так. Каб сродкі не праядаліся, а краіна магла іх вярнуць, яе абавязваюць змяніць эканамічную сістэму так, як бачыцца карысным эканамістам Фонду.

Мікола Бугай

## Як упарты паляшук стаў галоўным следчым Беларусі

Гісторыя жыцця новага старшыні Следчага камітэта Івана Наскевіча. Старонка 4.

## Муфтый Алі Варановіч: ІД — гэта экстрэмісты

Але прынамсі чатыры чалавекі з Беларусі з'ехала ў «Ісламскую дзяржаву». Старонка 13.

## У святле бліскавіц

Апавяданне Вінцэся Мудрова. Старонка 15.

# Тут вам не рады

Працяг са старонкі 1.

Нейкая студэнтка гадоў 20—25 шкадавала пра тое, што развaліўся Савецкі Саюз, а бабуля абурана пыталася, чаму расійскай авіябазы ўсё яшчэ няма ў Беларусі.

Першае пытанне насуперак сцэнару задаў нейкі школьнік, як ён сам сябе назваў.

Але ў словах хлопца было болыш эмоцыяў, чым пытання. Ён нагадаў, што ўсе сябры Расіі — бедныя, у той час як стыпендыя ў Германіі — 1500 еўра.

Яшчэ адно пытанне насуперак сцэнару прамоўцу задаў журналіст «Нашай Нівы». Выпрошваць гэтую магчымасць прыйшлося больш за гадзіну. Нашае пытанне аказалася фінальным. Гучала яно так: «Расійская імперыя распалася, Савецкі Саюз распаўся. Навошта Беларусі яшчэ адзін Еўразійскі саюз з Расіяй, калі грошы і тэхналогіі на Захадзе? І навошта гэта самой Расіі, замест наладжвання эканамічных адносін з Захадам?».

У адказ Старыкаў апеляваў да Данбаса: «А вы прыедзьце ў Данецк і спытайце, ці хочуць там людзі на Захад?»

Пасля заўвагі, што гаворка ідзе пра Беларусь, прычым тут Данбас, Старыкаў сказаў вось што: «Калі б вы нарадзіліся гадоў на 25 раней, вы б усё разумелі і настальгавалі па Савецкім Саюзе».


TUT.BY

**Мікалай Старыкаў**

Гэты расійскі «пісьменнік» вядомы вялікай колькасцю канспіралагічных кніг, якія падаюцца ім як «гістарычныя». У сваіх творах Старыкаў вінаваціць ва ўсіх бедах свету падступных «англасаксаў».

Беларусаў і ўкраінцаў для Старыкава ўвогуле не існуе — ёсць «адзіны рускі народ».

Ад пачатку канфлікту ва Украіне Старыкаў стаў дарагім госцем на расійскім тэлебачанні.

У Беларусі прапагандыст меркаваў зладзіць дзве сустрэчы са сваімі аднадумцамі, але не выйшла — спачатку сустрэчу з ім адмяніла кнігарня «Светач», а потым і гатэль «Беларусь».

У выніку Старыкава прынялі ў «Доме Масквы ў Мінску» — расійскім культурным цэнтры.



ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

На Дземідзенку накінуліся адразу некалькі ахоўнікаў Старыкава.

**Гігін не прыйшоў**

Анансавалася, што сустрэчу са Старыкавым правядзе тэлевядучы Вадзім Гігін, але гэтага не адбылося.

На гэтым сустрэча скончылася. А потым у мяне на вачах студэнт падышоў да мадэратара размовы і запытаў, хто можа даць яму даведку для ўніверсітэта, якая б пацвярджала ягонае знаходжанне на выступе Старыкава.

Сапраўды, каб запоўніць залу, студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, а таксама Акадэміі кіравання прапаноўвалі адгулы.

Расійскія прапагандысты розных колераў апошнім часам зачасцілі ў Мінск. Гэтыя навязлівыя прыезды выклікаюць занепакоенасць актыўнай часткі грамадства, якая баіцца паўтарэння ў Беларусі «данбаскага сцэнара».

**Арцём Гарбацэвіч**

## Мікола Дземідзенка: У зале былі Лушч і Шапко, але яны не ўдзельнічалі ў бойцы

Маладафронтавец Мікола Дземідзенка быў сярод тых, хто ўдзельнічаў у акцыі пратэсту ў «Доме Масквы» падчас сустрэчы з расійскім прапагандыстам Мікалаем Старыкавым. Хлопец падзяліўся ўражаннямі з «НН».

«Мы ставілі за мэту сарваць мерапрыемства, яна не выкананая. Я разлічваў, што будзе больш нашых людзей, яны будуць больш актыўнымі. Людзі абмяркоўваюць у фэйсбуку, правільна гэта ці няправільна, але самі ўдзельнічаць не гатовыя. Гэта нармальна.

Мы высвятлялі, хто гэтыя людзі, што на нас напалі. Гэта, мусіць, не беларусы, а людзі, што прыехалі з Расіі са Старыкавым. Іх была цэлая дэлегацыя, яны пасяліліся ў гатэлі.

У зале былі Сяргей Лушч [кіраўнік арганізацыі «Русь маладая» — «НН»], Пятро Шапко [кіраўнік «Казачага спасу» — «НН»], але яны не ўдзельнічалі ў бойцы. Яны бегалі вакол і нерваваліся. Удзельнічалі спрактыкаваныя хлопцы.

Трэба разумець, што «рускі свет» — з кулакамі.

Білі яны не надта моцна, хоць жадання хапала. Калі пісалі, каб ішоў у міліцыю, то гэта непрымальна, бо ніякіх пашкоджанняў няма. Я амаль не адбіваўся, бо Старыкаў — клоўн і садзіцца праз яго ў турму нелагічна. Я б мог пабіць аднаго ці некалькіх чалавек, але я толькі прыкрываўся.

Старыкаў выглядаў яўна спалохана.

Мне спадабалася, што грамада паўстала супраць Старыкава, пісалі, званілі. Таму яго адмовіліся прымаць «Светач» і гатэль «Беларусь». Старыкава загналі ў Дом Масквы.

Старыкаву паказалі, што яго тут не чакаюць. Ён думаў, што ў Мінску яны могуць рабіць, што хочуць. Але іх выгналі з усіх памяшканняў і абсвісталі».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

### Сцісла

**Міндзароўя прапануе прыраўняць электронныя цыгарэты да звычайных**

Міністэрства аховы здароўя хоча накласці на іх тыя ж забароны. «Усё больш навуковых даследаванняў пацвярджае іх шкоднае ўздзеянне на арганізм», — расказала Людміла Наройчык, намесніца галоўнага доктара Рэспубліканскага цэнтра гігіены.

**«Радыё Марыя — Беларусь» запрацуе з красавіка**

Беларуская рэдакцыя каталіцкай радыёстанцыі «Радыё Марыя» — «Радыё Марыя — Беларусь» пачне працу ў 2016 годзе, паведамляе партал catholic.by.

**У Мінск прывязуць арыгіналы Гойі і Пікаса**

У мінскі Мастацкі музей прывядуць каля ста графічных твораў агульным коштам 1,4 мільёна еўра з калекцыі Каралеўскай Акадэміі мастацтваў Мадрыда.

**СГ**

### Апытанні на nn.by

**Ці павінна Беларусь далучыцца да змагання з ісламскімі тэрарыстамі?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 138 | 14% |
| не | 191 | 20% |
| Беларусі трэба дзейнічаць у тых рамках, у якіх і раней дзейнічала | 113 | 12% |
| беларускія сілавікі ні пры якіх варыянтах не павінны ваяваць за межамі Беларусі | 526 | 54% |

Адказалі 968 карыстальнікаў

**Як па-Вашаму, ці пагражае ісламскі тэрарызм Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| так, тэракты могуць быць і ў нас | 263 | 31% |
| не, Беларусь не стане мішэнню | 277 | 33% |
| пагражае, бо беларусы таксама робяцца ахвярамі тэрарыстаў падчас падарожжаў | 306 | 36% |

Адказалі 846 карыстальнікаў

### Самае чытанае на nn.by за 11—17 лістапада

1 Іван Шыла: Што кідаецца ў вочы маладому беларусу, які вярнуўся з Польшчы

2 Сустрэча з расійскім прапагандыстам Старыкавым у Мінску пачалася з бойкі і скандавання «Чамадан, вакзал, Расія»

3 У Берліне забілі «каліноўца» Глеба Маліноўскага

4 Чалавек збудаваў пад Мінскам супермалую хатку, але з самымі сучаснымі тэхсродкамі, і прадае за 48 тысяч

5 Тэрарысты атакавалі Парыж. 128 забітых. Алянд увёў надзвычайнае становішча: «Барацьба будзе бязлітаснай»

6 Брытанскі вулічны мастак стварыў у Мінску гіганцкае графіці дзяўчыны ў вышыванцы

7 Нешта цікавае адбываецца ў Беларусі

8 Даходы ад дэпазітаў абкладуць 13%-ным падаткам

9 Сын гродзенскага ваенкама вучыцца ў інстытуце ФСБ і ездзіць на машыне са сцягам «Наваросіі»

10 Філосаф Аляксей Дзермант назваў «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг сімваламі лузераў

Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Афармленне падпіскі цяпер даступнае:
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце www.belpost.by;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Выпісаць «Нашу Ніву» можна ў кожным паштовым аддзяленні. Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска на 2015 (індэкс у каталозе — **63125**) — **40 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2015 (індэкс — **631252**) — **20 000** руб./месяц

Атрымаць газету магчыма:
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Тэрарысты атакавалі Парыж: загінула 129 чалавек

Стрэлы прагучалі ў Парыжы ў пятніцу ўвечары, каля 21.20 па мясцовым часе (23.20 па Мінску) спачатку ў X, а потым у XI акрузе французскай сталіцы, побач з вуліцай Біша (rue Bichat), потым у канцэртнай зале «Батаклян», дзе ў гэты момант граў амерыканскі гурт Eagles of Death Metal.

Мужчыны, без масак з аўтаматамі Калашнікава ўвайшлі ў канцэртную залу і пачалі страляць па людзях ва ўпор.

Адначасова невядомыя адкрылі стральбу па наведніках дзвюх парыжскіх установаў, якія знаходзяцца адна насупраць адной, — у бары Carillon («Цыферблат») і рэстаране Le Petit Cambodge («Маленькая Камбоджа»).

У гэты ж час у ходзе футбольнага матча Францыя—Германія каля стадыёна Stade de France на поўнач ад Парыжа прагрымелі выбухі. На гульні знаходзіліся прэзідэнт Францыі і міністр замежных справаў Германіі. Смяротнікі спрабавалі прарвацца на трыбуны стадыёна, але ахова спрацавала прафесійна.

Калі прагучалі выбухі, ахова вывела прэзідэнта, але матч не спынялі, каб не пачалася паніка і цісканіна.

Праз дзве гадзіны прэзідэнт Аланд абвясціў аб увядзенні ў краіне надзвычайнага становішча, а таксама аб закрыцці межаў і заклікаў народ Францыі да адзінства і свядомасці перад абліччам тэрарызму.

Яшчэ праз 25 хвілін спецназ штурмам узяў канцэртную залу «Батаклян», дзе тэрарысты захапілі закладнікаў. Усе да аднаго нападнікі былі забітыя ў ходзе штурму.

У краіне абвясцілі трохдзённую жалобу.

Хоць беларусы ў Парыжы не пацярпелі, ужо на наступны дзень пасля трагедыі да пасольства Францыі ў Мінску і консульства ў Брэсце пацягнуліся людзі, якія ўскладалі кветкі на прыступках.

А ў Парыжы выцягнуліся чэргі ахвотных здаць кроў. Таксісты ўвечары 13 лістапада развозілі людзей задарма.

Адказнасць за тэракты ўзяла на сябе так званая «Ісламская дзяржава».

**Мікола Бугай, Мікіта Недаверкаў**

**Колькі жыве тэрарыст?**

Як пішуць заходнія СМІ, паводле статыстыкі, фанатыкі, што дабіраюцца да так званай «Ісламскай дзяржавы» гінуць цягам некалькіх тыдняў. Крыніцы ў заходніх разведках прызнаюць, што заходнікі такім чынам хочуць «перамалоць» патэнцыйных тэрарыстаў. У Заходняй Еўропе смяротнага пакарання няма, а судовая сістэма мяккая. Але павольная вайна на Блізкім Усходзе ўцягвае патэнцыйных тэрарыстаў у свае жорны.

**Колькі тых тэрарыстаў ёсць?**

Колькасць байцоў «Ісламскай дзяржавы» ў Іраку і Сірыі ацаніць цяжка. Але заходнія спецслужбы маюць дакладныя спісы «патэнцыйна небяспечных элементаў». Так, у Францыі ў картатэцы спецслужбаў — 4000 людзей, што падпалі пад уплыў «радыкальнага ісламу». Менавіта людзі з гэтага спісу стаялі за большасцю апошніх тэрактаў. Таму лідары апазіцыі пасля падзей у Парыжы заклікалі больш не чакаць, а ўзяць і інтэрнаваць усе гэтыя чатыры тысячы.




## Меркель: «Адкажам тэрарыстам»

**Канцлерка Нямеччыны Ангела Меркель звярнулася да жыхароў Францыі. Мы публікуем тэкст яе выступу.**

Спадарства, мы перажылі страшную ноч, якую даўно не перажывалі ў Еўропе. Людзі ў Парыжы перажылі кашмар гвалту, тэрору і страху. Я хачу звярнуцца да французаў.

Мы, вашы нямецкія сябры, спачуваем вам, мы плачам разам з вамі. І мы будзем змагацца разам з вамі супраць усіх тых, хто здзейсніў гэту страшную рэч. Тое, што здарылася — напад на свабоду, і гэта тычыцца не толькі Парыжа.

Гэта закранула нас усіх. Мы атрымалі выклік. Нам трэба адказаць на гэта ўсім разам.

У першую чаргу гэта павінны зрабіць службы бяспекі. Нямецкі ўрад працуе з французскімі калегамі. Мы гатовыя ва ўсім дапамагчы вам. Мы зробім усё, каб злавіць удзельнікаў і датычных да тэрактаў. Мы будзем разам змагацца з тэрарыстамі.

Мы, як грамадзяне, павінны дакладна адказаць на атакі. Мы павінны жыць з чалавечнасцю, з любоўю да бліжняга, з радасцю быць разам. Мы верым у права кожнага асобнага чалавека шукаць сваё асабістае шчасце, у права жыць з павагай да іншага, у талерантнасць. Мы ведаем, што наша свабоднае жыццё мацнейшае, чым любы тэрор.

Давайце адкажам тэрарыстам. Мы зробім гэта ўпэўнена, усведамляючы нашы каштоўнасці. І ўмацуем гэтыя каштоўнасці па ўсёй Еўропе. Зараз гэта трэба зрабіць мацней, чым калі-кольвек.

## Названа імя арганізатара тэрактаў у Парыжы

Меркаваным спонсарам, а таксама куратарам тэрарыстаў, якія ўчынілі на мінулым тыдні серыю нападаў у французскай сталіцы, з'яўляецца бельгіец мараканскага паходжання Абдэльхамід Абауд.

Абдэльхамід Абауд быў адным з катаў «Ісламскай дзяржавы». На адным з відэа ІД ён быў зняты за рулём аўтамабіля, да бампера якога прывязаныя целы забітых закладнікаў.

Абауд знаходзіўся ў вышуку ў сувязі з падрыхтоўкай буйнога тэракту, які ўдалося прадухіліць у Бельгіі ў студзені 2015 года. Тады паліцэйскія застрэлілі ў ходзе аперацыі двух баевікоў-ісламістаў у горадзе Вэрв'е побач з мяжой Германіі.

Краіны Захаду ўжо некалькі тыдняў палявалі на Абауда. Самалёты наносілі ўдары па дамах і бліндажах, дзе ён мог знаходзіцца. Але не паспелі.

У той жа час за апошні тыдзень кара знайшла двух іншых катаў. Амерыканскімі авіяўдарамі былі забітыя «Джыхадзі Джо» — чалавек, які асабіста адразаў галовы закладнікам, і кіраўнік «Ісламскай дзяржавы ў Лівіі». А галоўнае, курдскае апалчэнне вызвалілі горы Сінджар. Такім чынам, перарэзаная адна з галоўных дарог, што звязвала захопленыя тэрарыстамі рэгіёны Ірака і Сірыі і ачышчаныя горы, дзе жыў шматпакутны народ езіды, якіх тэрарысты хацелі выбіць да апошняга чалавека проста таму, што езіды па рэлігіі паганцы.

**Сяргей Гезгала**

## Францыя адказала авіяўдарамі

«Францыя знаходзіцца ў стане вайны», — заявіў прэзідэнт краіны Франсуа Аланд. З гэтага ён пачаў сваю праму перад дэпутатамі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу.

«Я хачу сказаць французам, што мы мы будзем наносіць удары па ворагу», каб знішчыць яго ў Еўропе, Сірыі і Іраку, — сказаў кіраўнік урада Мануэль Вальс. «Мы пераможам у гэтай вайне», — дадаў ён.

Вальс таксама падкрэсліў, што Францыі варта быць гатовай да новых нападаў баевікоў.

Аланд жа заклікаў дзве самыя магутныя ў вайсковым сэнсе дзяржавы — ЗША і Расію — аб'ядналіся і разам раздушыць тэрарыстычную «Ісламскую дзяржаву».

Але Барак Абама не хоча пасылаць у Сірыю сухапутныя войскі. Амерыка заплаціла дарагую цану за барацьбу з экстрэмістамі ў Іраку і Афганістане. Амерыканцы больш не хочуць ваяваць у далёкай Азіі. Сярод іх распаўсюджанае меркаванне, што еўрапейцы хочуць, каб за іх праліваў кроў іншыя. Між тым для Еўропы ісламісты ўяўляюць большую пагрозу, чым для Штатаў.

У ЗША ўвогуле нарастаюць тэндэнцыі ізаляцыянізму. Напрыклад, 21 штат з 50, у тым ліку такія вялікія, як Тэхас і Фларыда, прыняў рашэнне, што не будзе прымаць у сябе сірыйскіх уцекачоў. Амерыканцы лічаць, што разам з уцекачамі могуць пратачыцца і тэрарысты.

**Мікола Бугай**

## Самыя гучныя тэракты ў Еўропе ў XXI стагоддзі

**Захоп на Дуброўцы**

23—26 кастрычніка 2002 у канцэртнай зале на Дуброўцы ў Маскве чачэнскія баевікі захапілі гледачоў мюзікла «Норд-Ост». Агулам у зале было больш за 900 чалавек. Каб вызваліць закладнікаў, у залу пусцілі газ. Але не разлічылі, і ад яго загінула 130 мірных грамадзян.

**Мадрыдскае метро**

11 сакавіка 2004 года шэраг выбухаў адбыўся ў мадрыдскай электрычцы. Іх ахвярамі стаў 191 чалавек. Адказнасць на сябе ўзяла «Аль-Кайда».

**Тэракты 7/7**

Праз год — 7 ліпеня 2005 — нападу падверглася лонданскае метро. Смяротнікі агулам здзейснілі 4 тэракты, у якіх загінулі 52 чалавекі. Тэрарыстамі былі людзі, што нарадзіліся і выраслі ў Вялікабрытаніі, але былі завербаваныя «Аль-Кайдай».

**Выбух у Мінску**

11 красавіка 2011 на станцыі метро «Кастрычніцкая» прагучаў выбух. Жыцця пазбавіліся 15 чалавек. За арганізацыю тэракта былі арыштаваныя віцебскія хлопцы Канавалаў і Кавалёў, якіх расстралялі.

**Андрэас Брэйвік**

22 ліпеня 2011 шэраг выбухаў перад адміністрацыйнымі будынкамі прагучалі ў Осла (Нарвегія). Праз пару гадзін чалавек у паліцэйскай форме пачаў страляніну ў маладзёжным лагеры на выспе Утоя. Ахвярамі двайнога тэракта сталі 77 чалавек. Яго выканаўца, правы радыкал Андрэас Брэйвік, асуджаны.

**ЗП**

# Як упарты паляшук стаў

Гісторыя жыцця новага **старшыні Следчага камітэта Івана Наскевіча.**

«Можна вас павіншаваць з навіной?» — пытаемся ў Надзеі Наскевіч. Некалькі дзён таму яе сын Іван стаў старшынёй Следчага камітэта.

Жанчына ведае пра прызначэнне, але яе душу больш грэе той факт, што два тыдні таму ў сям'і Івана нарадзілася чацвёртае дзіця — дачку назвалі Марыяй.

Бацькі галоўнага следчага краіны называюцца па-простму: баба Надзя і дзед Даніла. Род Наскевічаў жыве ў вёсцы ўжо даўно.

«Я ж не ўмею ні па-руску, ні па-беларуску... Буду па-свойму гаварыць», — папярэджвае баба Надзя і пачынае прамаўляць на добрай беларускай мове.

«Не люблю я Мінск. Далёка! Дый Брэст далёка. Я за чатыры гады там адзін раз была, а муж дык ні разу. Я ж не хацела, каб Іван з Пінска з'язджаў, — прызнаецца яна і смяецца: — Але хто ж мяне слухае?» Адчуваецца, што высокім прызначэннем сына яна ганарыцца.

### Вёска пад радыяцыяй

У госці да бацькоў Наскевіча мы прыехалі ў Столінскі раён. Вёска Церабліцы вялікая, больш чым на 1000 жыхароў. Гэта стартавы пункт для ахвотнікаў вандраваць па непралазных Альманскіх балотах, найбуйнейшых у Еўропе. На яго тэрыторыі савецкая ўлада пабудавала Мерлінскі авіяцыйны палігон. Многія навукоўцы мяркуюць, што менавіта тады адбылося першае радыеактыўнае забруджванне гэтай тэрыторыі, і Століншчына ўжо тады стала пазначацца на еўрапейскіх картах як радыяцыйная зона. А вось мясцовыя жыхары даведаліся пра радыяцыю толькі пасля Чарнобыля.

### Тры сыны

У сям'і Наскевічаў раслі трое хлопцаў. Іван — старэйшы сярод братоў. Васіль на два гады маладзейшы за яго. Ён узначальвае аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі ў столінскай бальніцы. Ну, а самы меншы, Сяргей, вывучыўся на ветэрынара і цяпер жыве ў Пінску.

Баба Надзя кажа, што нават не здагадваецца, чаму старэйшы сын пайшоў у юрысты. «Бабы і дзяды былі непісьменныя. Я на ферме, а гаспадар на трактары, вось і ўсё», — кажа яна.

Затое сыны навучыліся чытаць яшчэ да школы. «Мой брат Коля быў на 9 гадоў старэйшым за Івана, — расказвае Надзея Наскевіч. — Я хадзіла на працу на поле, а ён дзяцей няньчыў, вось іх і навучыў».

Праз нейкі час эстафета «няньки» перайшла да Івана з Васілём. Дэкрэтныя адпачынкі тады былі кароткія, таму бацькі пакідалі на іх малодшага брата. «Давярала на іх на дзень і дзіця, а яшчэ скаціну пакарміць», — кажа маці. Гаспадарка Наскевічаў была даволі вялікая: тры свінні, карова, гусі і куры.

### Народны майстар Супрунчык

У расповедах пра дзяцінства Івана Наскевіча абавязкова ўзгадваецца асоба Івана Супрунчыка. Ягоны музей — галоўная славутасць Цераблічаў.

Мясцовы краязнаўца сабраў па хатах сотні прадметаў вясковага побыту, ёсць сярод экспанатаў і дзежка прадзеда Наскевіча.

Другая палова экспазіцыі — карціны і драўляныя скульптуры Супрунчыка. Стваральнік музея не адстае ад часу, летась ён высек з бервяна твар Дар'і Домрачавай, а сёлета дадалася новая кампазіцыя, прысвечаная змаганню з «Ісламскай дзяржавай».

У часы дзяцінства Наскевіча Супрунчык быў бібліятэкарам і адыграў істотную ролю ў фарміраванні яго як асобы.

«Гэта мой найлепшы чытач быў! — узгадвае Іван Піліпавіч. — Раней кнігі адпраўлялі з Брэста і Мінска вялікімі пасылкамі, па некалькі сотняў у кожнай. Іван з Васілём заўсёды прыходзілі да мяне з пытаннем: калі новыя кнігі прывязуць? Трэ' было адкрываць кожную на першай і сямнаццатай старонках і ставіць бібліятэчны штамп».

За гэтую дапамогу браты Наскевічы атрымлівалі права прыярытэтнага выбару кніг. «Перачытвалі літаральна ўсё, былі эрудзіраваныя. Зачытваліся і Аляксандрам Дзюма, і Талстым, і Янкам Купалам з Якубам Коласам», — расказвае Супрунчык.

Для вясковай сям'і такое захапленне дзяцей выглядала нязвыклым. «Сварылася на іх, што зрок пасадзяць! Васіль дык на печ хаваўся з кніжкай, каб я не дасталa», — смяюцца узгадвае маці.



Іван Наскевіч.

**Іван Наскевіч**

Нарадзіўся 25 сакавіка 1970 у вёсцы Церабліцы Столінскага раёна. Скончыў Украінскую дзяржаўную юрыдычную акадэмію (1995) па спецыяльнасці «правазнаўства», Палескі дзяржаўны ўніверсітэт (2006) па спецыяльнасці «эканаміст», вучыцца ў Акадэміі кіравання па спецыяльнасці «дзяржаўнае будаўніцтва».

У 1995—2015 працаваў у органах пракуратуры. У 2007—2012 — пракурор Пінскага раёна, у 2012—2015 — пракурор Брэсцкай вобласці.

3 лістапада 2015-га — старшыня Следчага камітэта.

Жанаты, мае чацвярых дзяцей.



Трое братоў Наскевічаў: Іван, Сяргей і Васіль.

### Першы блін комам

У Цераблічах доўгі час была простая драўляная школа, у якой і вучыліся браты. Гэта ўсяго некалькі гадоў таму дабудавалі цагляны двухпавярховік, у якім памясціліся і яслі, і садок, і школа.

У Цераблiцкай школе Іван атрымаў залаты медаль і рушыў скарыць сталіцу.

Ці не адгаворвалі яго паступаць на юрыдычны? «Дык ён і не пытаўся нікога. На юрыста — і ўсё», — узгадваюць бацькі.

Спроба прабіцца на юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта аказалася няўдалай.

Іван атрымаў па гісторыі чацвёрку, што не пакідала шанцаў на паступленне. Конкурс тады быў дзесяць чалавек на месца!

На астатнія іспыты Іван не пайшоў. Хлопец вярнуўся дадому і ўладкаваўся ў калгас.

### Германія замест Афганістана

Неўзабаве прыйшла повза ў войска. Родныя баяліся, што Івана забяруць служыць у Афганістан, аднак яму пашанцавала. Прызыўніка рыхтавалі адправіць на Усход, аднак вясной 1988 года было прынята рашэнне пра вывад савецкага кантынгенту.

У выніку Іван апынуўся не абы-дзе, а ў Берліне, яшчэ падзеленым сцяной.

Пасля дэмабілізацыі Наскевіч атрымаў у Брэсцкай абласной пракуратуры накіраванне на вучобу па спецыяльнасці «правазнаўства» ў Харкаўскі юрыдычны інстытут (цяпер Нацыянальны юрыдычны ўніверсітэт імя Яраслава Мудрага), за тысячу кіламетраў ад дому.

«Іван паступіў у Харкаў, а Васіль — на медыцынскі ў Гродна. У савецкі час у нас былі ашчаджэнні, на кніжцы, але ўсё згарэла. Як сыны прыязджалі ў бацькоўскі дом па адным, дык было трошкі працей. А калі абодва прыедуць ды паставяць пустыя сумкі з пустымі кашалькамі...» — расказвае маці Івана Наскевіча пра пачатак 1990-х.

Тым часам развалiўся Савецкі Саюз. «Я прасіла Івана, каб перавёўся на завочнае, але ён не захацеў, — узгадвае яна. — Сказаў, як-небудзь пратрымаемся, а калі вывучымся, будзем вам грошы даваць».

### Пачатак кар'еры ў Пінску

Вярнуўшыся на радзіму, Наскевіч уладкаваўся ў пінскую пракуратуру, спачатку стажорам. Першай раскрытай справай стаў крадзеж бляшанкі фарбы, другой — бойка хулігана з міліцыянтам. Праз тры месяцы яму ўжо даручылі расследаваць складанае злачынства.

Цікава, што пасля вяртання з Украіны беларускага грамадзянства ў Івана не было. «Цэнз аседласці для атрымання грамадзянства — 7 гадоў. На шчасце, стаць грамадзянінам Беларусі дапамаглі калегі — праз паўгода атрымаў новы пашпарт», — узгадваў ён у інтэрв'ю.

У 1997 годзе ў жыцці Наскевіча адбыліся змены па ўсіх франтах. Па-першае, на яго ўсклалі абавязкі следчага па асабліва важных справах Брэсцкай пракуратуры. Ну а па-другое, малады юрыст знайшоў сабе нявесту.

### Вялікая сям'я Наскевічаў

У папярэднім нумары «Нашай Нівы» ўжо апісвалася рамантычна-крымінальная гісторыя знаёмства Івана Наскевіча з будучай жонкай. Нагадаем, у жніўні 1997 года ў Пінску насупраць аптэкі на




Шматдзетная сям'я пракурора на адпачынку.

# галоўным следчым Беларусі


Іван і Ірына Наскевічы пабраліся шлюбам праз паўгода пасля знаёмства.

вуліцы Першамайскай знайшлі труп мужчыны. Малады следчы апытваў дзяўчыну-правізара, якая была сведкай злачынства. На наступны дзень ён выклікаў Ірыну ў пракуратуру позвай, а неўзабаве запрасіў і на спатканне. Праз паўгода Іван і Ірына пабраліся шлюбам.

Бацькі нявесты зрабілі маладым дарагі падарунак — кватэру. Рамонт, праўда, давялося рабіць самастойна.

Неўзабаве ў сям'і нарадзілася дачка Альбіна. Дзяўчына скончыла школу ў Пінску і паступіла ў Брэсцкі абласны ліцэй імя Пятра Машэрава. На яе рахунку ўдзел у абласных алімпіядах па геаграфіі і англійскай мове, а таксама залаты медаль у ліцэі.

Па праграме «Расійскага супрацоўніцтва» Альбіна сёлета была рэкамендаваная для залічэння ў Расійскі ўніверсітэт дружбы народаў. Па гэтай праграме штогод набіраюць каля 20 беларусаў для навучання за кошт расійскага бюджэту. Аднак дачка Наскевіча ўсё ж вырашыла паступаць у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт на факультэт англійскай мовы.

Сын Даніла цяпер вучыцца ў 10 класе таго ж брэсцкага ліцэя, які скончыла сястра.

Меншы сын чыноўніка пакуль пяцікласнік, а дачцэ Марыі толькі некалькі тыдняў.

Іван Наскевіч — праваслаўны, але дзяцей у сям'і хрысцілі ў славутым свёнтакаўскім пінскім касцёле па веры маці.

Дзякуючы шматдзетнай сям'і, Наскевіч трапіў у лік чыноўнікаў-рэкардсменаў. З палітычных эліт па чацвёра дзяцей маюць Сяргей Румас, Віктар Лукашэнка і Надзея Каткавец, а вось у сям'і Ігара Рачкоўскага іх нават пяцёра.

## Дом у пінскіх Драздах

Стаўшы шматдзетнай сям'ёй, Наскевічы атрымалі правa на льготны крэдыт. У 2006 годзе ім выдзелілі 12 сотак зямлі ў Жылгарадку. Чытачам не з Пінска гэты тапонім не скажа нічога, але мясцовыя ведаюць Жылгарадок як аналаг мінскіх Драздоў.

Як і ў сталіцы, тут перасякаюцца інтарэсы ўлады і бізнэсу. Напрыклад, найбліжэйшы сусед Наскевіча — Міхаіл Самалазаў, першы намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама. А праз дарогу жыве самы багаты пінчук — як кажа пагалоска, мільянер — Віктар Лемяшэўскі, які валодае адразу двума элітнымі ўчасткамі.

На фоне катэджа бізнэсмена аднапавярховы цагляны дом Наскевіча выглядае сціплым. Яго плошча — усяго каля 150 м².

На будаўніцтва дома сям'я брала рублёвы льготны крэдыт памерам каля $10 тысяч у эквіваленце.

## Пераезд у абласны цэнтр

Пакуль ішла будоўля, Наскевіч паспеў узняцца да пасады пракурора Пінскага раёна (тады яна яшчэ існавала асобна ад гарадской).

Аднак жыць у сваім доме сям'і давялося нядоўга. Летам 2012 года брэсцкага абласнога пракурора Сяргея Хмарука перавялі на аналагічную пасаду ў Мінску, а на вызваленае месца паклікалі Наскевіча.

Захад Беларусі не такі крыміналізаваны як усход, што суседнічае з Расіяй. Напрыклад, летась на Брэстчыне на 100 тысяч чалавек было зарэгістравана 836 злачынстваў, а на Міншчыне і Гомельшчыне лічба перавышае 1000 злачынстваў.

## Стаўленне да смяротнага пакарання

Адно з прынцыповых пытанняў, па якім няма паразумення паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, — смяротнае пакаранне.

«Асабіста я за тое, каб найвышэйшая мера засталася як стрымліваючы фактар. Магчыма, праз нейкі час мы прыйдзем да таго, што яе трэба будзе скасаваць. Але пакуль яна апраўданая, у выключных выпадках», — казаў Наскевіч некалькі гадоў таму.

Аднак на справе за часы яго кіраўніцтва брэсцкай пракуратурай не было вынесена ніводнага расстрэльнага прысуду. Напрыклад, некалькі месяцаў таму жыхара Брэста за жорсткае забойства брата і яго жонкі пасадзілі на 24 гады. У іншых рэгіёнах Беларусі за такія злачынствы часцяком прысуджаюць да смерці.

## Барацьбіт са спайсамі

Наскевіч выдатна праявіў сябе ў барацьбе з курыльнымі сумесямі. Ён першым з абласных пракурораў выступіў за поўную забарону гэтага віду наркотыкаў. Калі абвастрылася сітуацыя ў Баранавічах, крымінальныя справы супраць распаўсюднікаў наркотыкаў заводзіліся дзясяткамі.

Іншым прыкладам ягонай прынцыповасці стала справа галоўнага рэдактара брэсцкай муніцыпальнай газеты. У інтэрнэце апублікавалі яго перапіску з непаўналетнім, аднак Следчы камітэт не стаў заводзіць крымінальную справу. Тады пракуратура настаяла на тым, каб адмяніць рашэнне і пачаць дадатковую праверку.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**


Іван (злева) і Васіль. «Гэтыя красоўкі Іван з заходняй Германіі прывёз. Яны дагэтуль не парваліся!» — расказвае маці пракурора.

**Чым займаецца Следчы камітэт?**

У 2011 годзе функцыі следчага апарата пракуратуры і падраздзяленняў папярэдняга расследавання МУС і КДК перадалі новай структуры — Следчаму камітэту, які падпарадкоўваецца непасрэдна прэзідэнту.

Цяпер абсалютную большасць крымінальных спраў расследуюць менавіта ў Следчым камітэце.

Першым старшынёй структуры стаў Валеры Вакульчык (цяпер старшыня КДБ). Ягоным наступнікам быў экс-пракурор Валянцін Шаеў, адпраўлены ў адстаўку «па згодзе бакоў» у пачатку лістапада.


Пасля ад'езду Наскевічаў у пінскім катэджы гаспадарыць цешча.

CESLIARY.BY
МЭБЛЯ І ЦЯСЛЯРСКІЯ ПРАЦЫ Ў МІНСКУ
Цяслярскія працы
Шафы-купэ, кухні ды любая іншая мэбля Вашае мары!
+375 44 461-90-20 (Velcom)
+375 29 749-90-20 (МТС)

ІП Дашкевіч Д. В., УНП 691599592

# Лукашэнка загадаў браць падатак з дэпазітаў

Даходамі давядзецца **дзяліцца з дзяржавай** з красавіка 2016 года.

Перадвыбарная праграма Аляксандра Лукашэнкі ўтрымлівала абяцанне не павышаць старыя і не ўводзіць новыя падаткі на працягу пяць гадоў. Яно пратрымалася роўна пяць дзён. А пасля быў падпісаны дэкрэт №7, паводле якога ўводзіцца падатак з працэнтаў па дэпазітах. Рашэнне было прынята Аляксандрам Лукашэнкам без грамадскай дыскусіі і ўзгаднення з парламентам.

Мэта ўладаў — матываваць укладчыкаў несці грошы ў банкі на працяглыя тэрміны і не забіраць іх пры першых жа чутках пра дэвальвацыю.

### Адклікаць ці не адклікаць

Першыя змены, прадугледжаныя дакументам, ужо ўступілі ў сілу. Раней любы дэпазіт можна было пры жаданні забраць з банка. Розніца была толькі ў тым, які працэнт даходу заставаўся пры гэтым датэрміновым разрываньні дамовы.

Цяпер дэпазіты падзяляюцца на дзве катэгорыі.

Некаторыя ўклады будуць безадзыўныя. Гэта значыцца, свае грошы можна вярнуць датэрмінова толькі са згоды банка, кожны такі зварот будзе разглядацца індывідуальна. Магчыма, для пацвярджання сваіх планаў давядзецца прадстаўляць адпаведныя дакументы — напрыклад, медыцынскую даведку аб неабходнасці аперацыі.

Нацбанк рэкамендуе, каб стаўка па безадзыўных прапановах не перавышала 26% у беларускіх рублях і 5% у замежнай валюце.

Тыя кліенты, хто пакідаюць сабе магчымасць адклікаць дэпазіты, могуць разлічваць на меншую стаўку — 25% у беларускіх рублях і 4% у валюце.

Банкі ўжо пачалі змяншаць стаўкі па існуючых дэпазітах, каб адпавядаць рэкамендацыям Нацбанка.

**Якія стаўкі ў іншых краінах?**

Расія — у расійскіх рублях можна пакласці грошы пад 12%, у замежнай валюце — 4,5-5%.

Украіна — дэпазіт у грыўнях можна адкрыць пад 25-26% гадавых, у замежнай валюце — аж да 13%.

У краінах Еўрасаюза фінансавая сістэма надзвычай стабільная, інфляцыя складае долі працэнта.

Літва — стандартная стаўка дэпазіта ў еўра вагаецца каля 0,5% гадавых, толькі пры доўгатэрміновых укладах, на 5 гадоў і больш, можна мець 1% гадавых.

Эстонія — стаўка рэдка калі перавышае 0,1% гадавых.

**Колькі атрымае бюджэт?**

Пасля ўступлення ў сілу дэкрэта структура дэпазітаў істотна зменіцца. Аднак калі б давялося плаціць падатак з цяперашніх дэпазітаў, дзяржава б атрымала ад укладчыкаў усёй краіны ўсяго каля $55 мільёнаў на год.

### Хто вызваляецца ад падатку?

Другое, больш прынцыповае нованўвядзенне ўступіць у сілу 1 красавіка 2016 года.

Ад гэтага дня ўкладчыкі будуць павінны сплачваць 13%-ны падатак са сваіх даходаў ад дэпазітаў. Банк будзе сам перасылаць гэтыя грошы ў падатковую інспекцыю. Затое укладчык, ад якога забралі частку даходу, афіцыйна перастане лічыцца дармаедам.

Каб вызваліцца ад выплаты падатку, трэба пакласці грошы на доўгі тэрмін — больш за год у рублях і больш за два гады ў валюце — і не забіраць іх.

Пакінуць у спакоі тых, хто мае грошы на рахунках да запатрабавання (гэта ў тым ліку, напрыклад, пенсійныя карткі). Даходнасць па іх не павінна перавышаць 3% у беларускіх рублях ці 0,2% у замежнай валюце.

Нарэшце, не абкладаюцца падаткам аблігацыі.

### Падаткі ў суседніх краінах

Беларускае нованўвядзенне не ўнікальнае, аналагічныя падаткі ёсць і ў іншых краінах.

Напрыклад, у Латвіі дзяржава забірае сабе 10% даходу ад дэпазітаў, ва Украіне — 15%.

Літоўцы таксама плацяць 15%-ны падатак, аднак толькі калі маюць на рахунку больш за 3 мільёны еўра.

У Расіі падатак ёсць, але толькі калі грошы ляжаць пад звышвысокі працэнт, не даступны для насельніцтва.

**Ягор Марціновіч**

## Кватэры ва ўсходняй Беларусі рэзка патаннелі

Жыллё ў Маладзечне даражэйшае, чым ва ўсіх абласных цэнтрах.

На беларускім рынку працягваецца крызіс. Цана прапановы квадратнага метра ў Мінску апусцілася да $1350, гэта ўжо ніжэй за мінімальнае значэнне 2009 года. Прычым дна крызісу не відаць — прапанова кватэр усё павялічваецца, але купляць па цяперашніх цэнах ніхто не хоча.

Партал Realt.by адсачыў сітуацыю на рынках нерухомасці вялікіх гарадоў. За год кватэры патаннелі на 10—35%. Прычым ва ўсходняй Беларусі цэны падаюць хутчэй, чым у заходняй. Віцебск, ранейшы лідар за межамі МКАДа, адкаціўся ў канец дзясятку дарагіх гарадоў. Уласнік сярэдняй двухпакаёўкі ў гэтым абласным цэнтры страціў да $20 тысяч. Аналагічная кватэра ў Пінску патаннела ўсяго на $3,5 тысячы.

**ЯМ**

| | Горад | цана квадратнага метра* | | Падзенне цаны за год |
|---|---|---|---|---|
| | | верасень 2015 | верасень 2014 | |
| 1 | Мінск | 1325 | 1685 | 21% |
| 2 | Маладзечна | 910 | 1017 | 11% |
| 3 | Брэст | 828 | 1041 | 20% |
| 4 | Салігорск | 821 | 977 | 16% |
| 5 | Гродна | 771 | 919 | 16% |
| 6 | Ліда | 740 | 851 | 13% |
| 7 | Гомель | 725 | 994 | 27% |
| 8 | Наваполацк | 704 | 937 | 25% |
| 9 | Магілёў | 695 | 943 | 26% |
| 10 | Віцебск | 686 | 1042 | 34% |
| 11 | Пінск | 682 | 755 | 10% |
| 12 | Барысаў | 669 | 892 | 25% |
| 13 | Полацк | 660 | 886 | 26% |
| 14 | Баранавічы | 632 | 747 | 15% |
| 15 | Орша | 588 | 813 | 28% |
| 16 | Мазыр | 586 | 733 | 20% |
| 17 | Бабруйск | 569 | 711 | 20% |

*Цэны па дадзеных рэальных угодаў




## Бізнэсмен з Іарданіі купіў палац у Іўеўскім раёне за $90 тысяч

**Сядзіба ў Жамыслаўі** — копія варшаўскіх Лазенак.

9 лістапада адбыўся аўкцыён па продажы палаца Умястоўскіх у Жамыслаўі Іўеўскага раёна. Бізнэсмэн з Іарданіі купіў помнік архітэктуры за 1,6 мільярда рублёў (каля $90 тысяч)

Палац у Жамыслаўі з'яўляецца копіяй знакамітага «палаца на вадзе» ў каралеўскім парку Лазенкі ў Варшаве. Тры разы аб'ект выстаўлялі на продаж. Нарэшце, пакупнік знайшоўся. Мясцовыя ўлады не называюць імя інвестара, але вядома, што гэта бізнэсмэн з Іарданіі. Напярэдадні аўкцыёну ён прыязджаў у Жамыслаў, каб убачыць аб'ект.

Акрамя самога палаца, пакупнік атрымае яшчэ тры будынкі пачатку XX стагоддзя, а таксама вялікі парк. Па словах намесніка старшыні Іўеўскага райвыканкама, даступнасць адрэстаўраванага палаца для турыстаў — адна з умоў продажу аб'екта.

Будынак не выкарыстоўваецца з 2006 года. Раней тут засядала праўленне калгаса, размяшчалася бібліятэка, аддзяленне сувязі і сельскі клуб.

У 2009 годзе сядзібу прадалі прадпрымальніку з Мінска, аднак пракурорская праверка выявіла парушэнні — будынак прадалі ўсяго за 9 мільёнаў рублёў, у той час як спецыялісты ацанілі яго ў 1 мільярд рублёў. Тады аб'ект вярнулі на баланс калгаса.

У 2012 годзе ў палацы здарыўся пажар, у выніку якога абрынулася страха.

**Адар'я Гуштын, naviny.by**

## Танная нафта ўзняла даляр да 18 тысяч рублёў

Ад пачатку тыдня амерыканская валюта штодня абнаўляе гістарычны максімум. Афіцыйны курс даляра дасягнуў 17 896 рублёў, а ў абменніках перавышае 18 тысяч.

Беларускі рубель па-ранейшаму прывязаны да валютнага кошыка, у якім у чарговы раз саслабеў расійскі рубель. Па ім б'е сітуацыя на нафтавым рынку. Упершыню за два месяцы баррэль нафты маркі Brent ад пачатку тыдня прадаецца танней, чым за $45, часам цана нават апускалася да $43,2.

**ЯМ**

### Сцісла

**Банк развіцця гатовы фінансаваць стартапы пад 17% гадавых**

Старшыня праўлення банка Сяргей Румас заявіў, што ахвотныя пачаць малы і сярэдні бізнэс могуць звяртацца ў яго структуру па крэдыты: «Умовы не будуць перавышаць палову стаўкі рэфінансавання +4,5%». Цяпер гэта 17% гадавых. Такую стаўку Румас лічыць цалкам даступнай і супастаўнай з узроўнем інфляцыі ў краіне. Банк развіцця плануе скіраваць на фінансаванне малога і сярэдняга бізнэсу каля $50 мільёнаў у эквіваленце.

**У аэрапорце з'явіцца "Д'юці фры" Дзмітрыя Лукашэнкі**

Кампанія «МаркетЛіга», створаная «Белмытнясэрвіс» і Прэзідэнцкім спартыўным клубам, атрымала магчымасць адкрываць магазіны бяспошліннага гандлю «Д'юці фры» ў аэрапорце «Мінск-2». Кампанія ўжо мае 5 крамаў на межах з Польшчай і Літвой.

**Машэнскі прыватызаваў «Брэстмясамалсэрвіс»**

Брэсцкая дзяржаўная кампанія, якая выпускае папяровую і кардонную тару, ацэньваецца ў $1 мільён. «Савушкаў прадукт» бізнэсмена Аляксандра Машэнскага выкупіў 89% акцый.

**«Победа» ў Мінску не перамагла**

Адгалінаванне «Аэрафлота» авіякампанія «Победа», якая прадае танныя білеты, хацела пачаць міжнародныя палёты з рэйсаў у Мінск, аднак планы сарваліся. Расейцы вінавацяць у гэтым «Белавія» і аэрапорт «Мінск-2», тыя кажуць, што не маюць дачынення да сітуацыі.

**ЯМ**

# Аматарскі клуб «Крумкачы»

## выйшаў у вышэйшую лігу

Зараз **вясёлыя хлопцы** змушаны будуць спыніць пасядзелкі з півам.


Футбалісты «Крумкачоў» гуляюць за бясплатна

«Крумкачы» нарадзіліся на інтэрнэт-форуме газеты «Прессбол» у 2011-м годзе. Звычайныя хлопцы вырашылі аб'яднацца ў аматарскую каманду. Гулялі ў першынстве Мінска. Пасля матчаў збіраліся на пасядзелкі за куфлем піва.

Каманда аб'яднала цікаўных і патрыятычных людзей. Хлопцы залезлі ў слоўнікі і выбралі беларускамоўную назву «Крумкачы». А лозунг: «Ляцець высока, глядзець далёка».

Пагуляўшы ў першынстве Мінска, каманда вырашыла, што можа пазмагацца і ў другой лізе чэмпіянату Беларусі, куды паспяхова заявілася. І правільна зрабіла.

Афіцыйна ФК «Крумкачы» з'явіўся ў сакавіку 2014 года. Дакументы на сябе афармілі самі футбалісты-аматары — Дзяніс Шунто, Уладзіслаў Маяроўскі і Васіль Глезаў. Яны ж узялі на сябе фінансавыя выдаткі.

Каманда ўдала піярылася, яе адміністратары дэманстравалі кемлівасць і ўменне весці справы.

Пра амбітны клуб раз-пораз выказваліся і знакамітасці. Так, у 2014-м годзе вядомы беларускі футбаліст Сяргей Гурэнка, які дапамагаў мінскаму «Партызану», асудзіў «Крумкачоў» за тое, што забілі гол у абыход прынцыпу фэйр-плэй: «Гэта бабы ў спадніцах, істоты без яйцаў. У жанчын і тое ёсць характар, а ў гэтых няма». Дзіўная заява, праўда?

Але, нягледзячы на скептыцызм, «Крумкачы» перамагалі і выйшлі ў першую лігу.

«У сярэдзіне 2014-га года мы з банкетамі завязалі. П'янкі скончыліся, пачалі гуляць у футбол і ператварыліся ў прафесійную каманду», — кажа сённяшні кіраўнік клуба Дзяніс Шунто. Сам ён перастаў выходзіць на поле і заняўся адміністрацыйнымі пытаннямі.

Шунто, які займаецца бізнесам, выдаткоўваў на «Крумкачоў» уласныя грошы. Сузаснавальнік Васіль Глезаў, які займаецца турыстычным бізнэсам, забяспечваў каманду транспартам.

Футбалісты спачатку ішлі на працу, як многія звычайныя беларусы, потым наведвалі трэніроўкі. У складзе «Крумкачоў» ёсць і кіроўцы, і гандляры, і рознаробочыя.

У якасці відэаапаратара ў каманду прыйшоў Яўген Касцюкевіч, які ў юніёрскім узросце гуляў у сістэме «Тарпеда-Жодзіна». Гульца ў свой час спісалі з-за праблем з сэрцам. Скончылася тым, што Касцюкевіча паставілі на браму, і той добра загуляў.

У склад пачалі падцягвацца і іншыя прафесіяналы, якіх з вялікага спорту спісалі. Напрыклад, гэта Сяргей Кошаль, які гуляў за ФК «Мінск» і аднойчы выклікаўся ў нацыянальную зборную.

Падцягнуўся і ветэран Сяргей Кавальчук (сёння яму 37), які калісьці тройчы выклікаўся ў нацыяналку.

У 2015-м годзе каманду амаль на голым энтузіязме пачаў трэніраваць Алег Дулуб, які раней уваходзіў у трэнерскія штабы «Тарпеда-Жодзіна», «Мінска», сталічнага «Дынама», гродзенскага «Нёмана» ды «Віцебска».

Дарэчы, ў 2014 годзе за «Крумкачоў» заявіўся бадай наймацнейшы беларускі хакеіст Міхаіл Грабоўскі (у той час у НХЛ была міжсезонка).

Бюджэт «Крумкачоў» на сёлетні сезон склаў усяго сто тысяч даляраў. Каманда ўвогуле не праходзіла перадсезонныя зборы. Футбалістам плацілі максімум 3 мільёны ў месяц і 1,5 мільёна за перамогу.

Але і пры такіх умовах клуб прабраўся на вяршыню турнірнай табліцы. 15 лістапада, пасля перамогі над магілёўскім «Днапром», паўаматарскі калектыў сенсацыйна выйшаў у вышэйшую лігу чэмпіянату краіны.

«Як бачыце, прадаўцы, будаўнікі зрабілі немагчымае», — так сціснула апісаў подзвіг «Крумкачоў» Раман Гаеў, гулец каманды.

Унікальная футбольная каманда не на жарт падагравае інтарэс да ўсяго беларускага футбола.

**Паводле: euroradio.fm**

---

**Аматарскія каманды ў Еўропе**

Вядома, такіх няма ў вышэйшых дывізіёнах першынстваў Англіі, Германіі ці Іспаніі. Аднак гэта не рэдкасць для Ірландыі ці Фінляндыі. У такіх развітых краінах раскошу быць прафесійнымі футбалістамі могуць дазволіць сабе адзінкі.

---

**Хто будзе гуляць у наступным чэмпіянаце Беларусі?**

БАТЭ (Барысаў)
«Дынама» (Мінск)
«Шахцёр» (Салігорск)
«Белшына» (Бабруйск)
«Граніт» (Мікашэвічы)
«Мінск»
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна)
«Нафтан» (Наваполацк)
«Нёман» (Гродна)
«Дынама» (Брэст)
«Славія» (Мазыр)
«Слуцк», «Віцебск»
«Ісλач» (Мінскі раён)
«Гарадзея»
«Крумкачы» (Мінск).

У гэтым чэмпіянаце не будзе каманд з Магілёва і Гомеля.

**Хто быў станавіўся чэмпіёнамі Беларусі?**

БАТЭ — 12 разоў, «Дынама» (Мінск) — 7, «Славія» — 2, «Шахцёр», «Белшына», «Дняпро», «Гомель» — па 1.

**Толькі ў Харватыі больш**

БАТЭ дзесяць сезонаў запар становіцца чэмпіёнам Беларусі па футболе. Такая самая працягласці серыя на сёння ёсць толькі ў Харватыі, дзе дамінуе заграбскае «Дынама». У Харватыі чэмпіянат праходзіць па сістэме «восень — вясна», таму ў маі «Дынама» зноў можа апярэдзіць БАТЭ.

**Самыя дарагія гульцы чэмпіянату**

Паводле аўтарытэтнага нямецкага сайта transfermarkt, самую дарагую імаверную цану мае цэнтральны абаронца БАТЭ Дзяніс Палякоў, які ацэньваецца ў 1,1 мільёна фунтаў. Ягоны партнёр па звязцы ў абароне БАТЭ серб Неманья Мілунавіч мае патэнцыйную цану ў 1,05 мільёна фунтаў. Самы дарагі гулец мінскага «Дынама», нападаючы зборнай Чарнагорыі Фатас Бечырай, ацэньваецца ў 840 тысяч фунтаў.

---

**Хто трэніруе?**

Алег Дулуб лічыцца адным з самых інтэлектуальных і тактычна падкаваных трэнераў Беларусі. Праўда, самастойна да гэтага ён амаль не трэніраваў. Часцей быў намеснікам галоўнага трэнера.

**Самы арыгінальны гулец**

Пра Сяргея Кошаля ў футбольных асяродках ходзяць легенды. Напрыклад, у 2011 ён завязаў з футболам, каб маляваць карціны. Ён пісаў кнігу пра японскія мульцікі. А сам сябе ён ахрысціў спачатку «Джарэдам», пасля «Акадам». У гэтым сезоне Кошаль рэгулярна забіваў галы і не адгукнуўся на прапанову «Гарадзеі», дзе яму абяцалі заробак 12 мільёнаў.

**Бюджэт**

За два гады на каманду было патрачана 200 тысяч даляраў. На год у вышэйшай лізе трэба як мінімум 500 тысяч.

**Пазыкі**

На сёння пазыкі «Крумкачоў» складаюць 40 тысяч даляраў.

**У трэнерскім складзе ёсць жанчыны**

За фізічную падрыхтоўку каманды адказвае фітнэс-інструктар Юлія Скшынецкая, за «Крумкачоў» гуляе яе муж.

**Кабан, Ельцын, Васільевіч**

Такія нікі на форуме «Прессбола» мелі заснавальнікі каманды. Менавіта так і ўзнікла ідэя стварыць каманду. Дзяніс Шунто — «Кабан», Уладзіслаў Маяроўскі — «Ельцын», Васіль Глезаў — «Васільевіч».

**Назва**




Стваральнікі кажуць, што хацелі нейкую незвычайную назву і абавязкова на беларускай мове. Па-руску, дарэчы, таксама пішацца «Крумкачы», а не «Вороны».

**Зміцер Панкавец**

---



## «Калі памру — ну і хрэн са мной. Пакладзіце пад плот і закапайце»

**Кранальная гісторыя** галкіпера «Крумкачоў».

У галкіпера Яўгена Касцюкевіча праблемы з сэрцам. Але гэта яго не спыняе, ён марыць правесці пару матчаў у вышэйшай лізе, нягледзячы на праблемы са здароўем і рызыкі.

Дыягназ шматпавярховы і цяжкі. На просьбу згадаць хоць бы прыкладна галкіпер адмахваецца і з усмешкай на твары просіць не дурыць яму галавы.

— У варатароў жа самыя сур'ёзныя нагрузкі, — разважае Яўген. — Кажуць, калі я працягну у тым жа духу, гадоў у 40 прыйдзецца рабіць сур'ёзную аперацыю.

— Я бяру на сябе ўсю адказнасць, — прызнаецца брамнік. — Падпісаў адпаведную паперу. Калі памру — ну і хрэн са мной. Пакладзіце пад плот і закапайце. Галоўнае, што на дактарах не будзе вісець граху.

**Паводле: Мікіта Мелказёраў, Onliner.by**

# Чалавек збудаваў пад Мінскам супермалую хатку, але з самымі сучаснымі тэхсродкамі

І прадае за 48 тысяч.



Модульных дамоў шмат — гэта новая хваля ў нерухомасці. Але гэты — не звычайны. Ён малюпасенькі.

Уладальнік такой незвычайнай хаты — Яраслаў. Ён вандраваў па розных краінах, дзе будаваў такога тыпу дамы. Парабіўшы ў Індыі, ён вырашыў вярнуцца на радзіму. Пасля вяртання ён схацеў пабудаваць модульны дом у якой вёсцы. Выбраў Дамашаны — 20 км па лініі электрычкі на паўночны ўсход ад Мінска.

На сёння ў Еўропе і Амерыцы модульныя дамы — гэта альтэрнатыва класічнаму будаўніцтву. Дамы збіраюцца ў мінімальныя тэрміны, яны цалкам экалагічныя і каштуюць танней.

Агульная плошча Яраслававага палаца складае 28 квадратаў. Гэта менш, чым тыповая хрушчоўка. Затое ёсць вялікая тэраса і садок. Ідэальнае лецішча!

«Брутальны дачны домік, абсталяваны самымі сучаснымі тэхнічнымі сродкамі. Матэрыял сцен — металічны каркас, уцеплены мінеральнымі плітамі. Шклопакеты ПВХ. Энергаэфектыўная сістэма асвятлення. Відэаназіранне і GSM-сігналізацыя. 3 камеры назірання (у тым ліку начнога бачання). Вулічнае асвятленне з датчыкамі руху. Участак 7,63 соткі, прымыкае да лесу. Агароджаны па перыметры капітальным драўляным плотам. Да асфальтавага пакрыцця дарогі 700 м. Станцыя электрычкі за 400 м. Прыпынак маршрутнага таксі і аўтобуса — 1 км. Вадаём — 2 км. Прамы продаж», — гаворыцца ў апісанні.



На сёння за дом просяць 48 тыс. даляраў, што раўназначна 820 млн рублёў.

У самім доме ёсць усё неабходнае. Падведзена каналізацыя, ёсць кухня з электрычнай плітой, халадзільнік. Ёсць гарачая вада, душ.

Знутры дом выглядае ўтульна: стаіць некалькі канапаў, моцная камінная печ на дровах. Ёсць асобнае памяшканне для інвентара з задняга боку хаты.

**Мікіта Недаверкаў**



# Хірургі ў ЗША правялі поўную перасадку твару

Амерыканскія хірургі правялі рэкордна складаную аперацыю па перасадцы чалавечага твару. Аперацыя доўжылася 26 гадзін, 41-гадоваму пажарнаму Патрыку Хардысану фактычна замянілі яго знявечаны пажарам твар на твар донара.

У 2001 годзе Хардысан ратаваў жанчыну з палаючага трэйлера і зусім абгарэў. Амаль страціў зрок, скура ператварылася ў маску. За апошнія 14 гадоў яго аперавалі 71 раз, усё спрабавалі ліквідаваць наступствы пажару, але беспаспяхова.

Донарам твару стаў 26-гадовы ньюёркскі мастак Дэвід Родэбаў. За год да аперацыі ён памёр у бальніцы ад траўмы, атрыманай падчас гонак на матацыкле. «Мы шукалі ідэальнага донара», — распавядае хірург Эдуарда Радрыгез. Донар быў падабраны так, каб максімальна знізіць рызыку непрымання новых тканак. Выкарыстанне твару Родэбаў для аперацыі ўхваліла яго маці.

У ходзе аперацыі хірургам прыйшлося змяніць форму чэрапа пацыента, каб яго новы твар не «навісаў» з чэрапа. У бліжэйшы час да Хардасана павінен пачаць вяртацца зрок.

Гэта першы выпадак у гісторыі медыцыны, калі чалавеку перасаджваюць такую вялікую колькасць тканіны твару, хоць частковыя перасадкі праводзіліся ўжо шмат разоў.

**Бі-Бі-Сі**

# У Расіі футбольнага каментатара адхілілі ад эфіру за крытыку «рускага свету»

Сайт *sports.ru* паведаміў, што вядомы расійскі каментатар Аляксей Андронаў адхілены ад эфіру тэлеканала «Матч ТВ». Не так даўно ў ФСБ паступіў запыт з просьбай праверыць выказванні Андронава на экстрэмізм.

Скандал стаў разгарацца пасля 5 лістапада, калі Андронаў пакінуў у твітары наступны запіс: «Вся швондеровщина, мерзость, нечисть, любітелі Новоросії, Русского міра і прочіе клошары отсюда вычіщены. Жріте свое дерьмо в другом месте».

Андронаў ніколі не хаваў сваёй палітычнай пазіцыі. Ён выступае ў падтрымку Украіны, асуджае анексію Крыма, а Салаўёва і Кісялёва называе фашыстамі.

Выказваўся ён і адносна Пуціна: «Чаго хоча Пуцін? Вечнай улады і вечнага жыцця, але гэтаму не бываць».

Ці іншы допіс з твітара Андронава: «Папярэджваю: кожны твіт на карысць тэрарыстычнай дзяржавы Навароссіі — гэта бан. Не марнуйце сілы. Украіна — непадзельная».

Тым не менш Андронаў ніколі не блытаў сваё прыватнае меркаванне і працу. Нічога падобнага ў тэлеэфірах ён, натуральна, не дазваляў.

**Зміцер Панкавец**



**На сэрцы**

# Дары каралёў

Піша **Дар'я Кастэнка**.



Нядаўна бацькі майго мужа пераехалі ў Ізраіль.

Людзі ва ўзросце каля 60 гадоў узняліся з месца, спакавалі пажыткі — і паляцелі ў краіну, дзе ім трэба вучыць мову, шукаць, дзе найбліжэйшы супермаркет, і разбірацца, як плаціць за святло і ваду.

Але я крыху не пра гэта.

Калі яны прыляцелі, у першы ж вечар яны ўручылі нам падарункі: цяльняшкі з надпісам «Адэса», упрыгажэнні для мяне, усялякую дробязь.

Нам — дарослым айцішнікам, якія жывуць у Ізраілі, яны, пенсіянеры, якія прыляцелі з Украіны, — прывезлі падарункі.

На Новы год да нас яшчэ прыляціць і мая мама — з Крыма, дурным маршрутам праз Маскву: больш за тысячу кіламетраў на поўнач, потым 2,6 тысячы кіламетраў на поўдзень.

І вось яна пытаецца: дзеці, я зварыла варэння з персікаў, вам прывезці пару слоікаў?

За тры з гакам тысячы кіламетраў яна гатовая везці гэтыя пару слоікаў, у багажы, дзе падлік вагі да грама, і нават не праз патрабаванні авіякампаніі, а таму што ў яе баліць спіна.

Пакаленне нашых бацькоў можна лаяць за многае, але ёсць у іх адна кранальная рыса: яны горача хочуць даць дзецям усё, што могуць. Усё, што ў іх ёсць: ад слоіка персікавага варэння да грошай на куплю кватэры. Напакаваць сыну-студэнту сумку прадуктамі, падкінуць дарослай дачцэ да Новага года мех бульбы і паўкабана, 20 гадоў стаяць у чарзе на кватэру, каб падарыць яе дзецям.

Гэта жаданне можа разрасціся да выродлівых маштабаў — і тады маленькіх дзяцей закормліваюць да расстройства жывата, а дарослых абібокаў утрымліваюць на сціплую пенсію, адмаўляючы сабе ва ўсім, акрамя хлеба, вады і адзення з сэканда.

Але ў нармальных рамках — гэта альтруізм чысты, кранальны і годны вялікай павагі.

У свеце не так шмат людзей, якія хочуць заўсёды нам дапамагаць, таму што вельмі нас любяць.

І не трэба хіхікаць са слоіка варэння і прасмаленага шчаціністага паўкабанчыка, нават калі вы ўжо выраслі і зарабляеце столькі, што можаце купіць сабе ўсё варэнне ў свеце.

ГЭТАГА варэння вы ўсё роўна не купіце ні за якія грошы. Яно салодкае, як у дзяцінстве, дзе здымаюць пенку з чароўнага варыва ў медным тазе.

Прыміце гэтыя дары вешчуноў.

З удзячнасцю і захапленнем.

Дар'я Кастэнка — беларуска, якая разам з мужам эмігравала ў Ізраіль з Расіі, пасля таго як Расія распачала вайну ва Украіне. Жыве ў Хайфе. Дар'я вядомая па гульні «Што? Дзе? Калі?». Яна стала знакамітая таксама сваім дзённікам з Плошчы-2006.

**Змяшчайце рэкламу і абвесткі ў газеце і на сайце NN.BY!**

Гнуткія зніжкі для прыватных асоб і прадпрыемстваў. Вялізны эфект ад рэкламы на сайце! 5 мільёнаў праглядаў старонак за месяц! Магчымасць селектыўнага паказу банераў.

**Тэлефон (017) 284-73-29, nn@nn.by**

# Сын гродзенскага ваенкама вучыцца ў інстытуце ФСБ і ездзіць на машыне са сцягам «Наварасіі»

Гэтая машына са сцягам г.зв. «Наварасіі» за лабавым шклом належыць Аляксею Кучару, гродзенскаму хлопцу, які вучыцца ў інстытуце пагранічнай службы ФСБ Расіі.

Бацька Аляксея — былы дэпутат Ашмянскага райсавета дэпутатаў і дзейны начальнік накіравання прызыву на вайсковую службу ў ваенным камісарыяце Гродзенскай вобласці, палкоўнік Сяргей Кучар.

Некалькі гадоў таму ягоны сын паступіў на вучобу ў Маскву. Відаць, там ідэй «рускага свету» Аляксей і нахапаўся.

У тэлефоннай размове Аляксей пацвердзіў, што машына належыць яму. Але хлопец адмовіўся каментаваць сцяг г.зв. «Наварасіі» у салоне, сказаўшы, што не будзе ні перад кім справаздачыцца.

А ў адказ на словы, што ён — будучы беларускі афіцэр і мусіць падтрымліваць афіцыйны курс (Лукашэнка не прызнаў ніякіх «Наварасій»), Аляксей сказаў — «Нічога страшнага, што не прызнаў».





Аляксей — вясёлы хлопец. Але сімволіка сепаратыстаў — гэта ўжо не жарты.

Праўда, у той жа дзень старонку з Укантакце (адкуль мы ўзялі яго фота) выдаліў.

Каментатары ў інтэрнэце заклікаюць паставіцца да гэтага выпадку паблажліва: «Нармальны хлопец, ездзіць на карчы, ваты ў поглядах асаблівай няма.

А тое, што там сцяжок такі ў машыне, дык гэта наступства навучання ў Расіі. Перарасце хлопец».

**Арцём Гарбацэвіч**



## Раптоўна памёр пасол Беларусі ў Германіі 48-гадовы Андрэй Гіро

Непапраўнае здарылася 17 лістапада.

Андрэй Гіро нарадзіўся ў 1967 у Мінску. Скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў па спецыяльнасці «нямецкая і англійская мовы» і Інстытут дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце.

Як дыпламат, ён рэпрэзентаваў Беларусь у Швейцарыі, Аўстрыі і ў апошнія гады — у Германіі.

«Андрэй Гіро валодаў неймаверным асабістым пазітывам, дзіўным пачуццем гумару і уменнем сябраваць», — цёпла напісалі калегі з МЗС.

# Як пенсіянерка з Оршы чакала валізкі з $10 мільёнамі

Жанчына шмат часу праводзіла ў інтэрнэце. І вось, чарговы віртуальны знаёмы звярнуўся да яе «па дапамогу».

Яна добра ведала англійскую мову. Пазнаёмілася з мужчынам. Той прадставіўся амерыканцам, які працаваў доктарам у Сірыі.

Далей пачынаецца сапраўдны Галівуд.

Мужчына распавёў, што ў Сірыі воляю лёсу ў яго засталіся дзве валізкі з 10 мільёнамі даляраў. Далей, спасылаючыся на тое, што Беларусь гэта ціхая і спакойная краіна, а яго суразмоўца з Оршы — чалавек надзейны, амерыканец прапанаваў жанчыне ўзяць грошы на захоўванне. Даставіць дзве валізкі з далярамі павінен быў спецыяльны кур'ер. Праўда, паскардзіўся мужчына, грошай на саму дастаўку ў яго пакуль няма. Затое ёсць рахунак у адным з банкаў далёкай афрыканскай дзяржавы — Ганы. Туды і павінна была пенсіянерка пераслаць трохі наяўнасці.

Жанчына дзіўнаватай гісторыі паверыла. Залезла ў даўгі, але назбірала 170 мільёнаў рублёў, якія і пералічыла на патрэбы рахунак.

Само сабой, гэта было махлярства. У выніку, пенсіянерка засталася ні з чым. А дакладней — з даўгамі. Усе спробы звязацца як з амерыканцам, так і з банкам з Ганы былі дарэмнымі.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# Знойдзенае цела Юліі Балыкінай

Цела зніклай лёгкаатлеткі Юліі Балыкінай знойдзенае ў лесе ў Смалявіцкім раёне, паведамляе Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

Пошукі жанчыны ішлі замаль месяц, але не давалі выніку. З 8 лістапада для гэтых мэтаў МУС штодня выдзяляла 300 салдат Унутраных войскаў, якія прачэсвалі лес. Цела спартсменкі, загорнутае ў цэлафан і старанна прыкрытае мохам, знайшлі каля вёскі Старына Смалявіцкага раёна. Цяпер на месцы працуе следчааператыўная група ўпраўлення Следчага камітэта па Мінску з удзелам экспертаў-крыміналістаў і судмедэкспертаў.




31-гадовая Юлія Балыкіна знікла 28 кастрычніка. Праз некалькі дзён па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства быў затрыманы знаёмы пацярпелай. На яго завялі крымінальную справу за забойства. У міліцыі мяркуюць, што ён наўмысна не паведамляў дакладнае месцазнаходжанне трупа.

**Сяргей Гезгала**

# Сайт regnum.ru назваў новыя беларускія грошы русафобскімі

А выратаваннем для Беларусі называе аб'яднанне з Расіяй.

На пракрамлёўскім сайце regnum.ru з'явіўся вялікі артыкул беларускага эканаміста, прыхільніка «рускага свету» Сяргея Шыптэнкі «Беларускае дэнамінацыйнае захапленне».

Аўтар тлумачыць, што ўмовы для дэнамінацыі беларускай валюты абраныя неспрыяльныя. Ён прыводзіць мноства цытатаў беларускіх чыноўнікаў аб тым, што дэнамінацыю можна праводзіць толькі пры ўмове 10% і ніжэй інфляцыі ў краіне. Шыптэнка называе «маніякальнай» цягу «моцных гаспадарнікаў» да друкарскага станка.

Шыптэнка рэзка крытыкуе стан сённяшняй беларускай эканомікі. «Простыя беларусы ледзьве сточваюць канцы з канцамі паміж крызісамі», — канстатуе ён.

А будаўніцтва Аляксандрам Лукашэнкам у такіх складаных умовах Палаца Незалежнасці называе «радзівілаўшчынай» і «лімітрофным фетышызмам».

Напрыканцы артыкула Шыптэнка прайшоўся ўласна па новых банкнотах. «Новыя грашзнакі, набліжаныя да еўра па дызайне і месцы вытворчасці, сімвалізуюць ідэалагічную ўстаноўку на адсутнасць сувязяў з Расеяй як у мінулым, так і ў будучыні.

Цудам ацалела толькі назва «рубель», якую, магчыма, толькі па прагматычных меркаваннях не замянілі на які-небудзь «талер» ці ўвогуле смяхотны варыянт у духу назваў валют сярэднеазіяцкіх рэспублік былога СССР».

І гэта яшчэ не ўсё, Шыптэнка абураецца, што на будучых грошах цалкам адсутнічае савецкае мінулае Беларусі.

«Новыя грашовыя знакі постсавецкай «рэспублікі» [заўважце, што слова напісанае ў двукоссі — «НН»] адлюстроўваюць міфічныя ўяўленні аб асобнай ад Расеі беларускай гісторыі і ўтрымліваюць недвухсэнсоўнае палітычнае пасланне: новым ідэалагічна верным суб'ектам беларускай гісторыі з'яўляецца ўжо не народ, а польскія паны — даўнія ворагі не толькі Расіі, але і ўсяго рускага. Адсюль багацце «радзівілаўшчыны» на новых купюрах, празрыстых намёкаў на польска-«сармацкія» карані беларускай дзяржаўнасці».

І ўрэшце Шыптэнка знаходзіць у купюрах, канечне ж, русафобію.

«У цэлым, сімвалы, намаляваныя на новых беларускіх грошах, адлюстроўваюць разнастайныя комплексы непаўнавартасці кіраўніцтва РБ, пачынаючы ад русафобіі і заканчваючы боязню дзяржаўнасці, якая не адбылася».

Які ж рэцэпт эканаміст прапануе ў такой сітуацыі?

«Уз'яднанне з Расіяй стане выратаваннем для Беларусі. Беларусы прывыклі жыць у паўнавартаснай дзяржаве, у вялікай самадастатковай краіне, думаць эпохамі і кантынентамі, супрацоўнічаць у рэалізацыі маштабных праектаў, адчуваць дачыненне да вялікай місіі. Рэалізацыя правa на ўз'яднанне дасць шанец. Гібенне ў лімітрофным гета агідае і смерці падобнае». Рэгнум.ру рэгулярна нападае на ўлады Беларусі. Але без асаблівай надзеі на ўвагу. Ягоны кіраўнік Мадэст Колераў нядаўна напісаў: «Беларусь павернецца да Еўропы, Масква нічога не зможа з гэтым зрабіць».

**Зміцер Панкавец**

**Кіно**

## Неперакanaўчы жах

Тук-тук
**Жанр:** трылер
**Рэжысёр:** Элай Рот
**У ролях:** Кіяну Рыўз, Ларэнца Іза, Ана дe Армас, Ааран Барнс, Ігнасія Аламанд, Дэн Бэйлі, Меган Бэйлі, Колін Кэмп
Чылі, ЗША, 100 хв.
**Адзнака:** 5




Адправіўшы сям'ю на пляжны адпачынак, архітэктар Эван застаецца на ўікэнд дома адзін, каб дарабіць тэрміновы праект. Уначы ў яго грукаюцца дзве мілыя дзяўчыны, якія заблукалі ў незнаёмым раёне і наскрозь прамоклі. Эван аказвае ім патрэбную дапамогу, але дзяўчаты не хочуць так проста пакідаць яго дом. Паступова ўсё паварочваецца ў бок здзекаў, вытанчаных катаванняў і павольнага садысцкага знішчэння сямейнага жыцця Эвана.

Рэжысёр і акцёр Элай Рот («Зялёнае пекла» (2013), другі рэжысёр «Бясслаўных вырадкаў» (2009)), зняў рэмэйк на стужку 1977 года «Смяротная гульня» (рэж. Пітэр С.Тэйнар, ЗША). Фільм Рота таксама нагадвае твор нямецкага рэжысёра Міхаэля Ханеке «Забаўныя гульні» (1997), дзе з цэлай сям'і здзекуюцца два хлопцы. Але калі фільм Ханеке быў намінаваны ў Канах, то рэмэйк толькі замяняе карцінку трэшавай драмы на больш якасную.

Выклікае пытанне з'яўленне ў такой стужцы Кіяну Рыўза, вядомага ўдзелам у якасных баевіках пра розныя эпохі (трылогія «Матрыца» (1999, 2003), «47 ронінаў» (2013), «Джон Уік» (2014)). Тут акцёр паказвае добрую ігру, але ў даволі спрэчным сюжэце.

У ролі фатальных дзяўчат зняліся жонка Рота, чылійка Ларэнца Іза, і ўзыходзячая зорка Галівуда, кубінка Ана дэ Армас. Апошняя разам з Рыўзам у наступным годзе з'явіцца ў містычнай стужцы «Дачка Бога».

Сюжэт трылера ад пачатку слабы. Яму не хапае глыбіннай праблематыкі: прэтэнзіі дзяўчат да добрага сем'яніна Эвана выглядаюць беспадстаўнымі, а для вар'ятак яны дзейнічаюць надзвычай арганізавана. Асэнсаванага заканчэння, як і выразнай матывацыі герaінь, сюжэт не мае, ён папросту нікуды не вядзе.

**Настасся Уласава**

# Аграсядзібы — гэта добра, але для суседзяў яны часам ператвараюцца ў кашмар

У Беларусі абмяркоўваюць шляхі развіцця турызму, у прыватнасці, і аграсядзібы. Першапачаткова ўсё было правільна прыдумана і выконвалася ў інтарэсах дзяржавы і грамадзян, але аграсядзібы як грыбы сталі вырастаць і ў катэджных забудовах. Як вынік, першапачатковая задума спусташаецца, камерсанты спрабуюць выкарыстоўваць пэўныя льготы, якія ёсць у гаспадароў аграсядзіб, не звяртаючы ўвагі на праблемы забудоўшчыкаў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Як прыклад, інфармацыя аб такой аграсядзібе ў адным з гарадоўспадарожнікаў Мінска. Аграсядзіба абнесена высокім суцэльным плотам, а трэба забяспечыць 70% празрыстасці з суседнім надзелам. Тылавы праезд, што для пад’езду пажарных машын, іншай тэхнікі МНС, трактароў з прычэпам гною, дроў, вывазу смецця, зроблены тупіковым, перакрыты земляным валам, стаў месцам стаянкі аўтамабіляў гасцей. Апошнія пакуль з’яўляюцца толькі ў выхадныя, калі на суседніх надзелах адпачываюць жыхары.

Цяпер пра інжынерныя камунікацыі: не разлічаныя яны на празмернае спажыванне вады, электрычнасці, а магчыма, і газу. Электраэнергіі па тэхнічных умовах выдзяляецца да 3 кВт па магутнасці, а адзін сучасны электрачайнік спажывае да 2 кВт. Кухня для пары дзясяткаў гасцей, плюс душ, іншыя электрапрыборы ў дзясяткі разоў перавышаюць нарматыў. Вада ў летні перыяд таксама падаецца ў абмежаванай колькасці, паколькі паніжэнне ціску натуральнае, водазаборныя сістэмы па эканамічных прычынах не маюць рэзерваў для падтрымання дазволеных аб’ёмаў да аддаленых спажывальнікаў.

Вываз смецця вызначаецца па ўсярэдненых паказчыках у разліку на аднаго чалавека. Аграсядзібы будуць падымаць гэты паказчык за кошт надзелаў з жыхарамі. Зямля пад забудову выдзяляецца толькі для таго, каб на ёй жыць, іншага Зямельны кодэкс не прадугледжвае.

Чаму аграсядзібы з’явіліся, а цырульню або рамонт абутку, адзення нельга ствараць на ўчастках? Вядома, у плане генеральнай забудовы ўсё, што трэба чалавеку, прадугледжана, выдзеленае спецыяльнае месца, і гэта нармальна.

Вядома, найбольш прывабнымі выглядаюць зацішныя, аддаленыя ад населеных пунктаў аграсядзібы, да якіх няпроста правесці інжынерныя камунікацыі. Дык вось, каб стымуляваць укараненне дасягненняў навукі і тэхнікі і спрасціць схему падаткаабкладання, прапаную не прыдумляць падатковых ільгот, а досыць вылічваць з гэтых падаткаў на карысць аграсядзібаў кошт вады ў залежнасці ад колькасці турыстаў у чалавека-днях з разліку, скажам, 140 літраў на дзень, па цане гэта 9 тыс./м$^3$, электрычнасць па 150кВт/гадзіну з разліку на турыста за месяц, аналагічна па смецце, выпрацаваць нормы і цэны на газ. Трэба стымуляваць з’яўленне на аграсядзібах сонечных батарэй, ветракоў і іншых распрацовак вучоных-практыкаў.

А што да заканадаўства, то трэба адыходзіць ад такіх законаў, якія патрабуюць спецкантролю, трэба, каб працаваў прынцып самакантролю, адзін закон аўтаматычна кантралюе другі закон, тады не патрэбная будзе аграмадная армія кантралёраў, якая і спараджае карупцыю.

**Касабука Г.П., Мінск**

Меркаванні

# Дзве праваслаўныя царквы, а такі кантраст

Піша **Тамара Ляўчук** з Кішынёва.

Ёсць у Кішынёве Георгіеўская царква, якая адносіцца да Рускай праваслаўнай царквы. Яна побач з маім домам, хаджу я туды больш за 15 гадоў.

Шчыра прызнаюся, верніца я нічога не вартая, абрады ведаю дрэнна, у царкоўных правілах арыентуюся з цяжкасцю. Каб нікога з вернікаў не напружваць і не крыўдзіць сваім няведаннем, хаджу, як правіла, па суботах, калі прыхаджан няма. У ціхай бязлюднай царкве лёгка моліцца, успамінаюцца бацькі, бабулі з дзядулямі, уся радня, сябры, якія рана пайшлі з жыцця, вызваляецца душа ад мітусні.

Сёння я вырашыла памянуць сваіх бацькоў і замовіць Саракавуст. Пытаюся: «Колькі каштуе памянуць аднаго нябожчыка?»

Абслугоўніца адказвае: «25 лей (1,25 $)». І тут жа пытаецца сама: «А што Вы з сабой прынеслі?»

«А што я павінна прынесці?»

І далей яна пералічвае: бутэльку сланечнікавага алею, пакет мукі, бутэльку салодкай вады, салодкую булачку, пакет гарбаты.

Усё, што абслугоўніца назвала, укладваецца ў суму 100—120 лей, г.зн. 5—6 даляраў.

Не разумею і не прымаю такія правілы Рускай праваслаўнай царквы. Я не скупы чалавек, перакананая: у царкве не павінна быць таксы за памін душы, але калі ўжо ёсць такса, то не павінна быць вымагальніцтваў для таго, каб дагадзіць густам служыцеляў, інакш царква становіцца бізнэс-установай.

Я вырашыла паехаць у іншую царкву і паехала ў царкву Бесарабскай метраполіі Румынскай праваслаўнай царквы.

Ужо тут тлумачу, што хачу замовіць Саракавуст, пытаюся: «Колькі каштуе памянуць аднаго нябожчыка?» Атрымліваю адказ: «Заплаціце столькі, колькі лічыце магчымым». Гутарка не пра грошы, размова аб адносінах, а стаўленне да людзей рознае ў дзвюх розных цэрквах.

**Тамара Ляўчук — беларуска, якая даўно жыве ў Малдове. Чытайце: facebook.com/levciuc**

In memoriam

# Анатоль Лукоўскі

31 кастрычніка памёр пецярбургскі бібліяфіл і патрыёт Беларусі Анатоль Іосіфавіч Лукоўскі. У савецкі час ён працаваў майстрам па рамонце пішучых машынак: ездзіў ад прадпрыемства да прадпрыемства, ад установы да ўстановы і абслугоўваў як сучасныя, так і шматлікія ў Ленінградзе дарэвалюцыйныя друкаркі. Заадным наведваў шматлікія букіністычныя кнігарні былой сталіцы імперыі. Свабодна чытаў і гаварыў на некалькіх замежных мовах: рускай, польскай, нямецкай. У побыце карыстаўся роднай, беларускай. Яго калекцыя рэдкіх выданняў, прысвечаных Беларусі, — велізарная і з любоўю і ведай сабраная. Асабліва любіў геаграфічныя і тапаграфічныя карты.

Адна нага Анатоля Іосіфавіча была зламаная — здарылася гэта, калі ў пачатку вайны немцы бамбілі родныя Ружаны. Малы Анатоль залёг за хлявом, нямецкая бомба разарвалася з супрацьлеглага боку, на нагу звалілася бэлька — вось так. «А ведаеш, чаму нага ўперад тырчыць? — пытаўся. — Дык я тварам не ў зямлю ўткнуўшыся ляжаў, а на спіне. Каб самалёты разгледзець — цікава было».

Дзякуючы спадару Лукоўскаму, ягоны зямляк-аднакласнік і вядомы ў Мінску мастак-плакатыст спадар Крукоўскі атрымаў рэдкія экзэмпляры кніг пра Беларусь. Прынамсі, трэці том «Жывапіснай Расіі» з сачыненнем Адама Кіркора. Дзякуючы патрыярху кнігалюбства, мы ўсе сталі крыху лепшымі, чым былі да знаёмства з ім.

Пражыў 82 гады. Загадаў пахаваць сябе ў Ружане.

Requiescat in pace.

**Мікола Нікалаеў, Санкт-Пецярбург**

Прыватныя абвесткі

**Віншуем сям’ю Ліхашэрстаў з народзінамі сына Якубкі**

Усім! Усім! Усім! Віншуем Караліну і Макара Ліхашэрстаў з народзінамі сына Якубкі! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгага жыцця ім усім! Шчаслівыя матулі

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб’ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам. **Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

Radisson Blu
ВЫДАТНАЕ МЕСЦА ДЛЯ ВАШЫХ СУСТРЭЧ
КАРПАРАТЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ І СВЯТКАВАННІ АД 52 ЕЎРА НА ЧАЛАВЕКА
50% ЗНІЖКІ НА АРЭНДУ КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛЯЎ З ПЯТНІЦЫ ПА ПАНЯДЗЕЛАК
РЫГА – ВІЛЬНЯ – КАЎНАС – КЛАЙПЕДА – ТАЛІН
Больш інфармацыі пра ўмовы акцыі:
www.radissonblu.com/en/mindfulbaltics
groupdesk.baltics@carlsonrezidor.com
Rezidor Baltics SIA
г. Рыга, Латвія

# Беларускага хлопца забілі ў Берліне

**Ішоў ноччу праз парк, нехта напаў на яго з нажом.**

Паліцыя Берліна паведаміла пра забойства 28-гадовага беларуса ў адным з паркаў горада. Ён памёр ад удараў у «верхнюю частку цела».

Як высветлілася, гаворка ідзе пра «каліноўца» Глеба Маліноўскага. Ён нарадзіўся ў 1987 годзе ў Віцебску.

Глеб — адзін з шасці дзяцей уніяцкага святара Яўгена Маліноўскага, які цяпер служыць у Баранавічах. У 2005 годзе Глеб паступіў на філфак БДУ, аднак пасля Плошчы-2006 з'ехаў у Кракаў па праграме Каліноўскага.

У Глеба засталося малое дзіця.

Бацька Глеба расказаў радыё «Свабода», што на яго сына напалі, калі ён ішоў з рэстарацыі, дзе працаваў памочнікам кухара: «Ён пачынаў станавіцца на ногі. Чаго туды паехаў? Бо ў яго сын там. Дзяўчына не захацела за яго выходзіць замуж, а ён вельмі любіў сына і вельмі туды імкнуўся. Урэшце, мусіла станоўча вырашыцца пытанне з правам на жыхарства, і праца была, ён падаў дакументы ва ўнівэрсітэт, яму заставалася крыху да сканчэння... Абставіны дакладна не высветленыя. Ішоў са змены ўначы. Яго знайшлі раніцай у аўторак са смяротным нажавым раненнем».

**ЯМ**

**Спачуванні праз nn.by**

Ведаю гэтую сям'ю — і бацьку, і сыноў. Светлыя, высокадухоўныя і разумныя людзі, патрыёты Беларусі. І вось такая вялікая страта... Цяжка ў гэта нават паверыць. Мае самыя шчырыя спачуванні!

**Мікалай Тоўсцік**

Вельмі шкада. Быў у Баранавічах, калі Глеб даваў канцэрт старажытнай музыкі. Цудоўны музыка і чалавек. Спачуванні родным.

**Андрэй Ляховіч**

Няма словаў.. Адно жалоба..

**Алесь Гізун**



# «Ай, нармальна»

**У «Нашу Ніву» звярнуўся чытач з Магілёва: дапамажыце! Сын разам з сябрам паехаў ратаваць гонар дзяўчыны ад нахабы. Але ў выніку яны апынуліся ў калоніі.**

### Адпачынак з дзяўчатамі

Пачалося ўсё ў лютым. Менавіта тады Ірына*, 17-гадовая студэнтка мясцовага гандлёвага каледжа, пайшла гуляць з сяброўкамі.

«Пад'ехаў бусік «Фальксваген». У ім былі мае сяброўкі: Паліна, Юля і Дыяна разам з чатырма хлопцамі. Мне прапанавалі з'ездзіць з імі на базу адпачынку ў Дрыбінскі раён. Спачатку я адмовілася, бо мне трэба было вярнуцца дадому да 11 вечара, — расказвае Іра. — Але ж мяне запэўнілі, што пасмажым шашлык, адпачнём і вернемся. Усе мае сяброўкі ўжо былі згодныя ехаць... ну, і я таксама пагадзілася...»

Кампанія заехала па алкаголь і прадукты і хутка ўжо была пад Дрыбінам, на базе адпачынку «Лясны кардон». Іру з сяброўкамі хлопцы запрасілі ў адзін з турыстычных домікаў. Накрылі стол, трохі выпілі. Пачаліся танцы. Сама Ірына сцвярджае: яна таксама пакаштавала шампанскае, але не больш за адну шклянку.

Затым два хлопцы, нягледзячы на тое, што ўжо трохі выпілі, з'ездзілі ў горад і прывезлі яшчэ двух сяброў. Не забыліся і на гарэлку. Іра зразумела, што вяртанне ў Магілёў становіцца праблемай. Кажа, некалькі разоў выходзіла на вуліцу пазваніць старэйшаму брату, бо той яе забраў. І калі Іра чарговы раз выйшла з доміка, то сустрэла аднаго з хлопцаў, Артура. Завязалася размова.

Затым, сцвярджае дзяўчына, хлопец перайшоў ад словаў да справы.

«Ён стаў пытацца ў мяне, ці не хачу я з ім... Артур быў нападдітку. Я яму спакойна патлумачыла, што ён добры хлопец, але з ім я не буду, бо ён сустракаецца з Дыянай. Артуру не спадабаўся мой адказ. Ён схапіў мяне за руку і сказаў, каб я ішла з ім. А калі я буду крычаць, то ён ударыць мяне, — распавядае Іра. — Я спалохалася — і пайшла».

Па словах дзяўчыны, Артур адвёў яе ў асобны пакой, схапіў за валасы і пачаў прымушаць да аральнага сэксу. Але Іра заплакала. Тады хлопец спыніўся і пачаў яе супакойваць. Калі ён адышоў па цыгарэты, Іра выбегла на двор і пазваніла брату. Той адказаў, што ўжо едзе. Іра чакала яго ў лесе.

Неўзабаве пад'ехаў брат, Анатоль* разам з сябрам Канстанцінам і яшчэ адным хлопцам. Іра ўзгадала, што забыла сумку ў доміку. Хлопцы схадзілі па яе самі, дзяўчына чакала ў машыне. Праз хвілін 20 яны вярнуліся і паехалі ў Магілёў. Па словах Іры, спачатку яна нічога не казала брату пра паводзіны Артура, расказала толькі дома. Анатоль пераканаў яе, што трэба ісці ў міліцыю. Праз дзень Іра разам з братам паехалі пісаць заяву на таго Артура. Неўзабаве, сцвярджае дзяўчына, да яе дайшлі чуткі, што ў той вечар яе брат учыніў бойку ў тым турыстычным доміку, а Артуру ўвогуле зламалі нос.

Праз месяц Анатоля разам з яго сябрам Канстанцінам выклікалі ў міліцыю і змясцілі пад варту, па справе аб збіцці. Справу аб спробе згвалтавання Ірыны так і не распачалі, «за адсутнасцю складу злачынства».

Анатоль і Канстанцін прабылі пад вартай увесь час, пакуль ішло следства. У ліпені адбыўся суд. Абодвух хлопцаў прызналі вінаватымі ў асабліва злосным хуліганстве за збіццё таго Артура і ахоўніка базы адпачынку, які выпіваў разам з кампаніяй. Анатоль атрымаў 3,5 года «хіміі». Канстанцін — чатыры гады калоніі.

### Блытаная справа

«Я ўпэўнены, што іх агаварылі», — сцвярджае Аляксандр Разумны, бацька Канстанціна. Ён паказвае вялізны стос папераў — мужчына спрабуе абскардзіць прысуд.

Аляксандр упэўнены, што яго сын стаў ахвярай абставінаў. І што гэта ўжо другая крымінальная гісторыя з яго ўдзелам. 28-гадовы Канстанцін ужо сядзеў 7 гадоў за махлярства, таму ў гэты раз прысуд і быў такім жорсткім. Але бацька лічыць, што і тая гісторыя была надуманай. У кухні яго пакоя ў некалькі вялікіх стосаў раскладзеныя паперы. Гэта спробы дабіцца справядлівасці па першай крымінальнай справе: звароты, адказы, хадайніцтвы. Тыя спробы апраўдаць сына скончыліся няўдала.

Гісторыя па версіі пацярпелых ад збіцця і іх сяброўак адрозніваецца ад Ірынай. І хлопцы, і дзяўчаты, якія адпачывалі з імі, сцвярджаюць, што ніякай спробы згвалтавання не было. А Іра пазваніла брату, каб паведаміць, што ў кампаніі адпачывае Юля, дзяўчына, з якой сябар Канстанцін працяглы час сустракаўся, яны нават жылі разам. А хлопцы прыехалі не абараняць дзявочы гонар, а, скажам так, пацешыць свой, мужчынскі. І калі яны прыехалі, то проста збілі падпітых гасцей «Ляснога кардону».

Іру паставілі на ўлік у наркалагічны дыспансер толькі таму, што яна ў паказаннях узгадала, што частавалася шампанскім. Але дзяўчына кажа, што ніводнага аналізу ў яе не ўзялі.

Нос таму Артуру зламаў увогуле трэці хлопец, які прыехаў разам з Анатолем і Канстанцінам. Гэта пацвердзілі відавочцы і сам ён, але ж на судзе гэты хлопец праходзіў толькі як сведка. Анатоль з Канстанцінам у сваіх паказаннях кажуць, што Артура збілі, бо ў яго быў нож. Артур сцвярджае, што нож трымаў таму, што хадзіў у машыну нарэзаць ежу. Да таго ж той жа ноччу Артур трапіў у бальніцу з пераломам. Міліцыянты бралі ў яго паказанні — першапачаткова ён чамусьці заявіў, што яго збіў Канстанцін. Пацярпелыя і сведкі сцвярджаюць, што ахоўніка збіваў Канстанцін па камандзе Анатоля, прычым збіваў з дапамогай металічнага прадмета, але што гэта быў за прадмет, ніхто дакладна сказаць не можа. Ды і спачатку таямнічы прадмет у паказаннях збітага ахоўніка не фігураваў, пра яго «ўзгадалі» пазней. На працягу справы мянялася месца дзеяння: спачатку пацярпелыя сцвярджалі, што, мірна палілі вогнішча ў лесе, потым — што ўсё ж былі на базе адпачынку. Мяняўся і склад «агрэсараў» — сам Артур увогуле першы час расказваў міліцыянтам, што калі ён з сябрамі адпачываў у лесе, з гушчару выйшлі 8 чалавек, якіх ён не запомніў і пазнаць не зможа. Спачатку гэта пацвярджалі і іншыя сведкі. Аднак тая самая Юля, былая дзяўчына Канстанціна, пасля прызналася, што раззлавалася на яго, і вырашыла... падбіць сяброўак і Артура агаварыць хлопца. Гэта пацвердзіла і адна з дзяўчат. Адтуль і ўзялася першая версія, што нос Артуру зламаў Канстанцін.

Такіх спрэчных і блытаных момантаў у справе хапае. Але суд вырашыў, што «разыходжанні паміж паказаннямі абвінавачаных тлумачацца нечаканасцю і хуткаплыннасцю таго, што адбылося і асаблівасцямі ўспрымання падзей рознымі асобамі».

Варта адзначыць, што і гісторыя са спробай згвалтавання выглядае дзіўнавата. Бо паперы па справе сведчаць, што заяву аб згвалтаванні Іра з братам панеслі ўжо пасля таго, як даведаліся пра тое, што Артур звярнуўся ў міліцыю. Ды і словы дзяўчыны час ад часу трохі адрозніваюцца: то яна дае паказанні, што адразу па тэлефоне паведаміла Анатолю, што яе хацелі згвалціць, то кажа, што распавяла пра гэта па прыездзе ў Магілёў. Але нягледзячы на супярэчнасці, Ірына стаіць на сваім. «Спроба згвалтавання была», — сцвярджае яна.

### «І што, засталася надзея?»

Аляксандр Разумны плануе змагацца далей: пісаць новыя хадайніцтвы. Ці дасць гэта плён? Будзем шчырымі, хутчэй за ўсё — не. Але бацька лічыць, што шанец ёсць заўсёды. Ён працягвае настойваць: Канстанціна пасадзілі за тое, што ён хацеў выратаваць сястру свайго сябра.

Сама Ірына кажа, што ўвогуле хоча, каб уся гэтая гісторыя хутчэй забылася. Яна сцвярджае, што на Артура не злуецца.

«Мне цяжка, канечне... Але хай ужо ўсё застаецца як ёсць. Галоўнае, каб ім тэрміны не дадавалі, ды і ўсё. Няхай брат ужо спакойна адсядзіць і выйдзе, — кажа Ірына. — Мне часам здаецца, што ўсё гэта — праз мяне. Бо я ж брату пазваніла... Але што мне было рабіць? Увогуле, я не такога чакала ад жыцця. Думала, што жыццё прасцейшае».

Калі брата пасадзілі, Ірына зрабіла сабе татуіроўку. Кажа, каб падбадзёрвала. На яе руцэ напісана «Пакуль жыву — спадзяюся», на лаціне.

«І што, засталася надзея?» — пытаюся я.

«Ай, нармальна», — адказвае Іра.

**Улад Швядовіч, Магілёў—Мінск**

** — імя зменена.*

## Сцісла

**«Замініраваў» метро**

13 лістапада станцыя метро «Магілёўская» была зачыненая: хтосьці паведаміў аб мініраванні. Сапёры нічога не знайшлі. Пра «бомбу» паведаміў п'яны мінчук, які робіць леснікам. Ён затрыманы.

**Смерць у ДТЗ**

У Маларыцкім раёне на трасе Р17 Брэст — мяжа Украіны «Форд» урэзаўся ў трактар. Абодва кіроўцы загінулі.

**Паўгода жыў побач з трупам маці**

У Магілёве знайшлі цела пенсіянеркі, якое паўгода праляжала ў ванне. Мяркуецца, што 66-гадовую жанчыну забіў сын, які жыў з ёю. 25-гадовы хлопец потым загерметызаваў вентыляцыю і заклеіў скотчам дзверы, каб не чуць трупнага паху. Ён затрыманы.

**Загінулі ў агні**

У Расонах — гэта за Полацкам — згарэў дом. На месцы здарэння знайшлі целы трох чалавек: 66-гадовай пенсіянеркі і двух яе сыноў 43-х і 37-мі гадоў.

**Знайшлі цела Юліі Балыкінай**

Цела спартсменкі, загорнутае ў цэлафан і старанна прыкрытае мохам, знайшлі каля вёскі Старына Смалявіцкага раёна. Нагадаем, жанчына знікла 28 кастрычніка, неўзабаве па падазрэнні ў забойстве затрымалі яе былога хлопца.

**УШ**

# Што кідаецца ў вочы маладому беларусу, які вярнуўся з Польшчы

Піша **Іван Шыла**.

Я сёмы год жыву не з бацькамі, з іх адзін правёў у войску і пяць у Польшчы. З дарослым жыццём знаёміўся менавіта там, таму апошнія два месяцы ў Мінску для мяне ў многім — новы свет.

Паспрабую гэта ўсё апісаць.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## 1. Дарагія машыны

Я вучыўся ў двух універсітэтах у Польшчы, і многія аднакурснікі прыязджалі на вучобу машынамі. Незаўважна. Уласны аўтамабіль у студэнта — даволі звыклая справа, пра гэта не размаўляюць, і я не ведаў, які ў каго аб'ём рухавіка і колькі жарэ бензіну. Больш за тое, многія палякі не ездзілі на вучобу машынай, бо ў цэнтры было цяжка з паркоўкай.

У беларусаў аўтамабіль займае важнае месца сярод тэм, якія трэба абмяркоўваць. Машына ў Беларусі мае важнае значэнне для прэстыжу, і я ведаю многа сітуацый, калі людзі набываюць вельмі дарагі аўтамабіль, пазычаючы грошы, і пасля фактычна на ім не ездзяць, ашчаджаючы на паліве.

Машына — гэта тое, што людзі бачаць, і беларуская сціпласць тут не працуе. Таму, па маіх уражаннях, доля дарагіх машын у Мінску большая, чым у Варшаве. Затое, у польскай сталіцы яны навейшыя, перавага аддаецца практычнасці, а не выгляду.

## 2. Тэма вандровак

Пра што тады размаўляць маладым? Апроч клубаў, алкаголю, адносін і перспектыў працаўладкавання, у Польшчы часцей, чым у нас, гавораць пра паездкі за мяжу.

Абсалютна нармальна два разы на год куды-небудзь лятаць. Як для студэнтаў, так і для іх бацькоў. Планаванне падарожжаў і ўражанні — звыклая тэма на перакуры.

Кураць у Польшчы менш, дарэчы.

Ездзіць на Новы год у Францыю ці летам школьным аўтобусам у Італію для польскага школьніка з'яўляецца нечым падобным на паездку беларускага ў мінскі «Макдональдс». Адбываецца там тое самое, што ў нашых паездках і дзіцячых лагерах — алкаголь, наступствы алкаголю, настаўнікі, якія заўважаюць наступствы алкаголю, сэкс. Але гэта можа быць у славацкіх гарах альбо ў просценькім гатэлі ля Парыжа.

## 3. Квадратныя метры

Затое ў Польшчы няма такой колькасці размоў пра кватэры.

Адносіна цаны квадратнага метра да сярэдняга заробку ў Польшчы меншая, чым у Беларусі, а стаўкі па крэдытах там не перавышаюць 2% у год, таму ніхто асабліва не перажывае. Я ніводнага разу не чуў размоў «Марэку бацькі набылі кватэру, во пашанцавала». Можа і набылі, але гэта не робіць яго галоўнай зоркай патоку.

## 4. Небяспечныя польскія гопнікі

Я яшчэ ў 15 гадоў заўважыў, як модна апранутыя хлопцы ў салігорскім клубе скакалі на галаве іншага модна апранутага хлопца. Тады я зразумеў, што вопратка ў нас ніяк не ўплывае на тое, які перад табой чалавек.

Ясна, што ў Польшчы ты таксама не можаш вызначыць, хто перад табой па тым, як ён апрануты. Але вылічыць імавернасць таго, што пасля просьбы аб цыгарэце ты атрымаеш у твар, там можна дакладней.

Польскія гопнікі апранаюцца па-іншаму, яны асобны сацыяльны клас, які паводле вопраткі, дарэчы, і называецца — «дрэсы», што ў перакладзе азначае «спартовыя касцюмы».

І самае важнае — гэта ведаюць і самі «дрэсы», і людзі, якія на іх глядзяць.

Гэта не значыць, што ў Польшчы я пазбягаў боек. Зусім не. Білі мяне пару разоў, але толькі «дрэсы».

Гэтыя «пару разоў» — фактычна адзіныя бойкі, якія мне даводзілася назіраць за пяць гадоў.

У начных клубах Польшчы бачыў бойку толькі аднойчы, але прызнаюся, што сам яе пачаў. Акурат пасля размоў пра тое, што ніколі іх не бачыў у клубах.

Але там былі польскія фанаты, якія мяне, мірнага беларуса, сапраўды дасталі.

## 5. Небяспечныя польскія фанаты

Дарэчы, пра польскіх фанатаў. Гэта рэальна тая катэгорыя, якой я баяўся.

Бывала, горад перакрывалі, у ім дзяжурыла паліцыя са зброяй і ў поўнай амуніцыі, самі «кіболы» (так гэта па-польску) спынялі цягнікі са сваімі апанентамі і ўчынялі бойкі проста ў полі альбо як мінімум разгойдвалі гэтыя цягнікі на станцыях і шпурляліся бутэлькамі.

## 6. Больш англійскай мовы і замежнікаў

І зноў вяртаючыся да той бойкі з фанатамі. Яна стала даволі масавай, і супраць польскіх фанатаў былі мы, беларусы, а таксама іранцы, француз і шведы. Не толькі мяне дасталі «аматары футбола», перад студэнтамі з Ірана яны ўздымалі правую руку ў нацысцкім вітанні. Але размаўлялі і правакавалі па-англійску.

Таму тут два важныя і даволі простыя моманты — у Польшчы больш замежнікаў на вуліцы, і палякі нашмат больш масава і лепш валодаюць замежнымі мовамі.

## 7. Чыстыя вуліцы і больш міліцыі

Банальны факт, які я толькі пацверджу, — вуліцы ў нас чысцейшыя і колькасць міліцыі адразу кідаецца ў вочы.

Гэта пры тым, што ў Польшчы яе таксама шмат, але стаўленне да праваахоўнікаў іншае. З імі спрачаюцца альбо не падымаюцца, калі яны падыходзяць. Польскі студэнт не будзе выключаны пасля затрымання і пратакола, таму беларускі больш асцярожны.

Польская паліцыя ў большасці сітуацый больш ветлівая, і многія звыклыя для Беларусі грубасці з боку міліцыі там невядомыя. Хоць мне аднойчы ад польскай паліцыі дасталася ў найлепшых нашых традыцыях — прычым, праваахоўнікі прыгаворвалі «Валі нах** у сваю Беларусь».

Я быў студэнтам-піякам, але, відаць, многіх такіх сітуацый удавалася пазбегнуць — у гэтым сэнсе ў Польшчы зроблена правільна:

у Польшчы ў студэнцкія інтэрнаты паліцыя не можа зайсці без дазволу рэктара. Заходзіць мясцовая ахова, якая не можа складаць пратаколы, але можа вырашаць канфлікты. І больш лагодна.

## 8. Інваліды, пераломы і бамжы

Я не думаю, што ў Беларусі менш інвалідаў на вазках, але іх менш на вуліцах. Таксама не думаю, што колькасць бяздомных у нас меншая, чым у Польшчы, але ў Беларусі за з'яўленне на вакзале могуць затрымаць і адправіць на «суткі», а ў Польшчы толькі выправадзіць.

Тое самое з пераломамі.

Людзей з загіпсаванымі нагамі нашмат часцей пабачыш у Польшчы, чым у нас. Альбо гіпс там накладаюць не ў самых складаных выпадках, альбо там прынята хадзіць на работу нават з пераломамі. Што лагічна — у Польшчы больш людзей працуе «на сябе», а ў Беларусі — на дзяржаўных прадпрыемствах.

## 9. Вышыня вышэйшай адукацыі

У Беларусі ў мяне лічаныя знаёмыя не атрымалі вышэйшай адукацыі альбо не спрабавалі яе атрымаць. У Польшчы такіх можа быць траціна. Ніхто не заганяецца.

Патрабаванні да вышэйшай адукацыі ў Польшчы вышэйшыя, скончыць ВНУ цяжэй. У Беларусі камерцыйныя ВНУ і платныя патокі дзяржаўных універаў выдаюць дыпломы проста за сам факт наведвання цягам чатырох гадоў. У Польшчы такога няма.

## 10. Айфоны і макарона

Сціпламу беларусу вельмі важна, як ён выглядае. Пры ўтраях ніжэйшых, чым у Польшчы, заробках у нас скрозь дошкі гонару.

У Беларусі айфоны маюць тыя, хто есць адну макарону. І гэтыя ж людзі на выходных трацяць у клубах 100 даляраў. Я таксама так раблю.

## 11. Хто больш п'е

Алкаголь у Польшчы можна набыць паўсюль і калі хочаш. Ніхто не кажа пра бязбожны ўрад, які спойвае нацыю.

У Польшчы больш бараў і кавярняў, як, зрэшты, і цэркваў, і кнігарняў.

Прынята есці на вуліцы, прынята часцей выходзіць у горад.

Больш масавых імпрэз на вуліцах, пікнікоў для гараджан на вуліцах, канцэртаў, клубаў і пешаходных зон. І пры ўсім гэтым, менш чырвоных твараў у людзей.

Беларусы выглядаюць спітай нацыяй, і я прамаўчу пра сябе. Фільтры ў інстаграме ратуюць свет.

Пра піць: калі больш начных клубаў — гэта таму, што туды ходзяць. Палякі выпіваюць у клубах і многа выпіваюць дома. Але перад тым, як «пайсці на імпрэзу». У нас «імпрэза» дома, да канца і з музыкай на кухні.

Візуальна ў Польшчы менш тоўстых людзей і больш людзей займаецца спортам. Кажуць, растучая колькасць фітнэс-цэнтраў непазбежная для развітых краін. У Беларусі спорт яшчэ і даражэйшы.

## 12. Дзверы і ліфты

У мінскім метро прытрымліваюць дзверы, і гэта вельмі міла. Але ў нас могуць дзіўна глядзець, калі ты вітаешся са спадарожнікамі ў плацкартах або ўсміхаешся незнаёмым на вуліцах.

А ў Польшчы пры выхадзе з ліфта людзі — знаёмыя і незнаёмыя — кажуць адзін другому «дзенькуе». «Дзякуй за кампанію», значыць.

Дарэчы, на Польшчу як на няветлівую краіну глядзець усе замежнікі. Не былі ў Беларусі.

# Муфтый Алі Варановіч: **Мы тлумачым нашым вернікам, што ІД нельга падтрымліваць**

Але **прынамсі чатыры** чалавекі з Беларусі з'ехалі ў «Ісламскую дзяржаву».

Так супала, што пра іслам у Беларусі і свеце мы пагутарылі з муфтыем Духоўнага ўпраўлення мусульман Беларусі Алі Варановічам на мінулым тыдні. А ў пятніцу ўвечары здарыліся тэракты ў Парыжы. Удвая цікавыя сталі думкі беларускамоўнага муфтыя.



**Алі Варановіч**

нарадзіўся ў Мінску ў 1968 ў татарскай сям'і. Яго бацька Ісмаіл Варановіч таксама быў муфтыем. Алі Варановіч служыў на флоце. Затым атрымаў вышэйшую адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, пасля заканчэння якой працаваў інжынерам-канструктарам. З 2004 пастаянна працуе ў Духоўным упраўленні мусульман, спачатку ў якасці сакратара, а затым імама-хатыба (прамаўляе падчас пятнічнай службы і ў рэлігійныя святы). Алі Варановіч у 2009 скончыў вучобу на завочным аддзяленні Казанскага вышэйшага мусульманскага медрэсэ «Мухамадыя». У 2014 скончыў бакалаўрыят Расійскага ісламскага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Тэалогія». Жанаты, гадуе чатырох дзяцей.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Колькі сёння ў Беларусі мусульман?**

**Алі Варановіч:** Складанае пытанне. Калі адбываецца перапіс насельніцтва, то ніхто не пытаецца пра рэлігію людзей. Мы можам меркаваць, толькі па нацыянальнасцях, і калі так, то прыкладна 30 тысяч чалавек. Але можа быць і болей. Нярэдка сутыкаўся з выпадкамі, калі да нас прыходзіць чалавек, якога клічуць Ібрагім, прозвішча таксама мусульманскае, я пытаюся пра нацыянальнасць, ён кажа, што беларус.

**«НН»: А колькі сярод іх беларускіх татар?**

**АВ:** Зноўку ж, паводле перапісу дзесьці 7300 чалавек. На жаль, гэтая лічба скарачаецца ад аднаго перапісу да іншага. Кожныя 10 гадоў мы губляем дзесьці 25% беларускіх татараў. Адбываецца асіміляцыя.

**«НН»: А чаму так адбываецца? 600 гадоў татары не гублялі сваёй ідэнтычнасці, а цяпер так хутка адбываецца сціранне?**

**АВ:** Нацыянальнасць складаецца з многіх чыннікаў, як супольная мова, супольная эканоміка, супольная культура, супольная рэлігія. А ў беларускіх татараў супольнай была толькі рэлігія — іслам. Мова была ці беларуская, ці польская. Эканоміка была звязаная з астатнім насельніцтвам. Тое ж можна сказаць і пра культуру. Бо, напрыклад, не было сваіх асобных песняў, народных строяў. Калі ў савецкі час пачаўся ціск на рэлігію, то беларускія татары пачалі траціць сваю свядомасць.

**«НН»: Ці ўплываюць беларускія татары на рэлігійнае жыццё ў Беларусі?**

**АВ:** Уплываюць. Большасць імамаў — беларускія татары. Яны ўзначальваюць рэлігійныя суполкі. Але, канечне, калі прыйшла хваля міграцыі з Турцыі, арабскіх краін, Афганістана, то ўплыў стаў меншаць. Мы вучым іх сваім традыцыям, яны нас — сваім. У малых гарадах, як Іўе, Смілавічы захоўваецца традыцыя малення беларускіх татар.

**«НН»: Чаму ў Мінску дагэтуль няма мячэці?**

**АВ:** Яна будуецца. І хутка будзе дабудаваная. Фінансуюць туркі. Наколькі я ведаю, налета яна будзе дабудаваная. Яна будзе адкрытая на скрыжаванні вуліц Грыбаедава і Ігнаценкі.

**«НН»: Як сталася, што ў Беларусі існуе аж два мусульманскія муфтыяты?**

**АВ:** Тут праблема нават не ў рознагалоссях рэлігійных. Праблема ў асабістым. Наш муфтыят узнік у 2002 годзе. Падставай было асабістае непаразуменне майго бацькі з тым муфтыятам. Пакуль складана гаварыць аб нейкім аб'яданнанні.

**«НН»: Дзе праходзяць навучанне духоўныя асобы мусульман Беларусі?**

**АВ:** Мы пасылаем вучыцца ў Расію, у Казань. Гэта ці Вышэйшае мусульманскае медрэсе «Мухамадыя» (там вучаць па-татарску), ці Расійскі ісламскі ўніверсітэт (там па-расейску).

**«НН»: Каб быць імамам, канечне мець адмысловую рэлігійную адукацыю?**

**АВ:** Не зусім. У ісламе няма панятку святар. Вось сабраліся тры мусульманіны, ім трэба зрабіць намаз. Яны абіраюць сярод сябе імама. У перакладзе на беларускую імам значыць «той, хто стаіць наперадзе». Але імам у мячэці мусіць мець нейкую адукацыю, яму патрэбна ўвесь час адказваць на складаныя пытанні. Абрад жа можа праводзіць любы ўплывовы мусульманін.

**«НН»: Пры якіх умовах і калі Каран, малітвы ці, можа, хадысы будуць перакладзеныя на беларускую мову?**

**АВ:** Праца над перакладам Карана ідзе. Я раблю яго з Дзмітрыем Анціпенкам. Я больш адказны за арабскі тэкст, ён — за беларускі. Гэтая справа цяжкая, гэта не звычайная белетрыстыка. Глядзіш слова, потым чытаеш тафсір (тлумачэнне). Сэнс Карана вельмі шматгранны. Перакладзеная, можа, толькі адна пятнаццатая частка. Калі ўсё добра будзе, то гадоў праз дзесяць скончым працу.

Малітва, намаз, чытаецца толькі па-арабску. І ніяк інакш. Чытаюць усе па-арабску: і туркі, і малайзійцы. Хадысы — можа, наступная праца пасля перакладу Карана. Кніг хадысаў шмат і розных.

**«НН»: Як сёння іслам ставіцца да абортаў, геяў, смяротнага пакарання?**

**АВ:** Да абортаў адмоўна, бо гэта забойства чалавека. Да гомасэксуалізму таксама адмоўна — гэта лічыцца вялікім грахом. У Каране ёсць гісторыя пра Лута, які заклікаў адзін народ адмовіцца ад гомасэксуалізму. Людзі не паслухаліся, і Алах пакараў іх.

У ісламскім праве ёсць смяротнае пакаранне ў некаторых выпадках. Але мы лічым, калі гэта не ісламская дзяржава, то лепш адмовіцца ад гэтага. Тут ёсць разнагалоссі і не ўсе са мной пагодзяцца. Асабіста я ў выпадку рэферэндуму галасаваў бы супраць смяротнага пакарання.

**«НН»: Ці ўсе беларускія мусульмане суніты?**

**АВ:** Не ўсе. Традыцыйна, канечне, суніты. Але ў нас ёсць шматлікая суполка азербайджанцаў, якія шыіты. Ніякіх супярэчнасцяў няма, ходзяць у адну мячэць. Мы шукаем тое, што нас аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае.

**«НН»: Навошта беларусам іслам?**

**АВ:** Кожны чалавек мае свабоду выбіраць свой шлях да Бога. Калі ёсць беларусы, што хочуць прыняць іслам, то мы дапамагаем ім. Мы не кажам, што ўсе беларусы павінны стаць мусульманамі. Але я перакананы, што вывучаць іслам павінен кожны культурны чалавек, бо гэта вялізная частка сусветнай цывілізацыі. Трэба вывучаць, каб ведаць сваіх суседзяў, іх погляды.

**«НН»: Як актыўна беларусы прымаюць іслам?**

**АВ:** Ніякай статыстыкі няма. Можа, дзясятак чалавек прымае за месяц. Іслам даволі дэмакратычная рэлігія і для таго, каб яго прыняць, зусім не абавязкова прыходзіць да імама. Чалавек можа сядзець за маніторам камп'ютара ды сказаць шахаду [сімвал веры ў адзінага Алаха — «НН»]. І ўсё, ён ужо мусульманін. Пажадана, каб было два сведкі, але зусім не абавязкова. Бо перад Алахам, які ўсё бачыць і ўсё чуе, ён ужо мусульманін.

**«НН»: Ці праблема купіць у Беларусі тавары для мусульман?**

**АВ:** Гадоў пяць таму была. Я б падзяліў тавары на прадукты і прамтавары. У Мінску ёсць некалькі крамаў, які гандлююць халяльнай [дазволенай — «НН»] ежай. На Камароўцы ёсць пункты, на Экспабеле, на Ждановічах. Я памятаю, калі ў 90-я вырашыў харчавацца толькі халяльным, то пяць гадоў зусім не еў мяса. Еў рыбу, яйкі. Цяпер жа ніякай праблемы няма.

Што тычыцца прамтавараў, то мы, наколькі можам, прапануем іх людзям. Гэта дываны для намазаў, цюбецейкі, алей з чорнага кмену.

**«НН»: Ці ўзнікаюць у беларускіх мусульман праблемы на побытавым узроўні праз іх веравызнанне?**

**АВ:** Калі толькі з непісьменнымі людзьмі. Маёй сям'і нагаворвалі кепскіх словаў у электрычцы... А цывілізаваны чалавек не будзе крыўдзіць іншага праз яго рэлігію.

Мае дзеці вучацца ў беларускамоўнай гімназіі. Калі мая жонка ўпершыню прыйшла ў школу, то вахцёрка кажа: чаго вы сюды прыйшлі, тут толькі беларусы вучацца. Большасць жа людзей ставіцца вельмі шчыра, добра.

**«НН»: Ці татарскага паходжання прозвішчы Басалыга, Бут-Гусаім, Калаўр?**

**АВ:** Я не ведаю. Я налічыў каля 60 прозвішчаў беларускіх татар. Гэтых прозвішчаў у маім спісе няма. Беларускія татарскія прозвішчы можна падзяліць на тры групы. Першая — гэта ў каго ёсць арабскі ці цюркскі корань у прозвішчы: Аліевіч, Сагідэвіч, Сафарэвіч, Ахматовіч. Другая група са славянскім коранем: Варановіч, Канапацкі, Лебедзь, Бараноўскі, Казлоўскі. Трэцяя — гэта тыя прозвішчы, якія многія лічаць яўрэйскімі: Абрамовіч, Рафаловіч, Барановіч.

**«НН»: Хто такія «Ісламская дзяржава»? Як іх дзейнасць суадносіцца з ісламам?**

**АВ:** Радыкальная экстрэмісцкая групоўка. Мусульманскія рэлігійныя дзеячы, навукоўцы асудзілі іх дзеянні, заклікалі мусульман не падтрымліваць ІД, не далучацца да іх. Многія навукоўцы параўноўваюць іх з такой сектай як харыджыты, якія ў VII стагоддзі аддзяліліся ад большасці мусульман. Паўсталі супраць халіфа Алі і нават забілі яго. Шмат праблем у першай ісламскай дзяржаве было менавіта ад іх. Мы тлумачым нашым вернікам, што ІД нельга падтрымліваць, нельга туды ехаць. Такія радыкальныя дзеянні супярэчаць ісламу.

**«НН»: Ці ёсць выпадкі, што нехта з Беларусі туды паехаў?**

**АВ:** Ёсць такія выпадкі. Прынамсі мы ведаем пра чатырох чалавек.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# «Галасую за Беларусь!» — як ствараўся і дзейнічаў Беларускі Народны Фронт

Піша **Аляксандр Кур’яновіч**.

У найноўшай гісторыі Беларусі ніводная палітычная сіла не выклікала столькі дыскусій, як Беларускі Народны Фронт. Нарадзіўшыся пры канцы перабудовы, новы рух адразу ж набыў тысячы паплечнікаў, але не менш — і праціўнікаў. Абрэвіятура «БНФ» стала самай брэндавай, а тэрмін «бэнээфавец» назаўжды ўвайшоў у беларускі палітычны лексікон.

Узнікненню Фронту спрыяў непахісны гістарычны закон наяўнасці сітуацыі, знешніх абставінаў і асобы, здольнай узяць на сябе адказнасць.

За асноўны фактар варта ўважаць перабудову — рэформы, дэкларававаныя генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым. У Беларусі працэсы дэмакратызацыі ішлі марудна праз нізкую палітычную актыўнасць насельніцтва ды варты жалю стан нацыянальнай культуры, што дало падставу пісьменніку Алесю Адамовічу назваць Беларусь «Вандэяй перабудовы». Тым не менш і Беларусь незваротна мянялася ў палітычным і грамадскім плане.

Гісторыя БНФ пачынаецца з 19 кастрычніка 1988. Тады ў рэспубліканскім Доме кіно (цяпер касцёл Сымона і Алены) быў выбраны Арганізацыйны камітэт па стварэнні Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне».

## Постаць Пазняка

Кіраўніком аргкамітэта стаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства Зянон Пазняк.

Пачаткам грамадскай актыўнасці Пазняка можна лічыць красавік 1969 г., калі ў агульнасаюзнай газеце «Правда» ён з мастаком Лявонам Баразной у артыкуле «Заботясь о будущем» выступіў супраць знішчэння гістарычнай забудовы Мінска. Артыкул быў выклікам партыйнаму кіраўніцтву Беларускай ССР з Пятром Машэравым на чале.

Пазняка цкавалі, не раз выганялі з працы. У БССР ён страціў магчымасць абараніць кандыдацкую дысертацыю па праблематыцы беларускага прафесійнага тэатра ў 1900—1917-х (абараняўся ў Ленінградзе).

Аднак сапраўдны выхад Пазняка на авансцэну грамадскага жыцця адбыўся 3 чэрвеня 1988 года. У газеце «Літаратура і мастацтва» ён з інжынерам Яўгенам Шмыгалёвым апублікаваў артыкул «Курапаты. Дарога смерці» пра ўрочышча пад Мінскам, месца масавых расстрэлаў у гады сталінскага тэрору.

Рэдакцыя газеты была літаральна заваленая лістамі чытачоў. Кіраўніцтва рэспублікі адрэагавала тым, што 14 чэрвеня 1988 стварыла ўрадавую камісію, якая сумесна з пракуратурай пачала расследаванне па фактах, выкладзеных у публікацыі.

## Першая спроба сілаў

Народны Фронт толькі-толькі стварыўся, як надышоў важкі палітычны экзамен — выбары народных дэпутатаў СССР.

Аргкамітэт распаўсюдзіў перадвыбарчую платформу пад назвай «Пятнаццаць пунктаў», якія ахаплівалі ўсе сферы грамадскага жыцця: неабходнасць шырокага выкарыстання рынкавых метадаў, аднаўленне сацыяльнай справядлівасці, асуджэнне сталінізму і г.д.

Актывісты БНФ выкарыстоўвалі найноўшыя па тых часах паліттэхналагічныя прыёмы: улёткі, пакватэрны абыход. Дзякуючы Фронту дэпутацкія мандаты атрымалі будучы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч (1991—1994), будучы генеральны пракурор Мікалай Ігнатовіч (1991—1992). І, наадварот, дэпутатамі не сталі тыя, хто быў пэўны ў перамозе: прадстаўнікі партнаменклатуры (першы сакратар Мінскага гаркама Віктар Галко), дырэктарату (кіраўнікі «Гарызонта» і «БелаўтаМАЗа» Аляксандр Санчукоўскі і Міхаіл Лаўрыновіч).

## Першы з’езд

23 мая 1989 г. у Мінгарвыканкам паступіла заяўка, падпісаная народнымі дэпутатамі СССР Васілём Быкавым, Аляксандрам Жураўлёвым і іншымі. У заяўцы была просьба пра спрыянне ў правядзенні 24—25 чэрвеня 1989 г. у Мінску ўстаноўчага з’езда БНФ з выкарыстаннем нацыянальна-гістарычнай сімволікі: бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня».

Улады ўзялі курс на зрыў з’езду. Падкантрольныя СМІ разгарнулі кампанію, па Беларусі пракацілася хваля мітынгаў супраць БНФ, арганізаваных «зверху».

У адказ 29 мая 1989 г. рабочы Міхаіл Собаль ля Дома ўрада пачаў бестэрміновую галадоўку пратэсту і скончыў яе толькі па асабістай просьбе пісьменніка Алеся Адамовіча.

Безвынікова скончылася і сустрэча прадстаўнікоў Фронту і членаў Прэзідыума ВС. На сустрэчы было заяўлена, што назва «фронт» «немного пугает», а народны пісьменнік БССР і старшыня Вярхоўнага Савета Іван Навуменка назваў з’езд БНФ «нонсэнсам і абсурдам».

У выніку ўстаноўчы з’езд БНФ адбыўся «ў дарагім беларускаму сэрцу горадзе Вільня».

Прысутнічалі 460 дэлегатаў, у тым ліку Васіль Быкаў і Станіслаў Шушкевіч. В. Быкаў у сваім выступе назваў рух БНФ нацыянальным па форме і дэмакратычным па сутнасці.

З’езд прыняў шэраг рэзалюцый: аб пераадоленні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы; аб палітычным плюралізме; аб свабодзе сумлення і беларускай мове ў рэлігійным жыцці; аб беларускай нацыянальнай сімволіцы; аб дзяржаўнасці беларускай мовы; аб беларуска-літоўскіх дачыненнях.

## Пытанне пра рэгістрацыю

Улады таксама супраціўляліся афіцыйнай рэгістрацыі БНФ.

13 ліпеня 1989 г. Пазняк падаў для рэгістрацыі ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР статут БНФ. Там парэкамендавалі «прывесці дакументы ў адпаведнасць з Канстытуцыяй БССР». А ў кастрычніку 1989 г. у «Советской Белоруссіі» партыйныя гісторыкі Уладзімір Казлякоў і Мікалай Сташкевіч даводзілі, што ў праграме Фронту драматызуецца нацыянальная абстаноўка, адсутнічаюць «созідательные подходы і конструктівные ідеі».

Публічна пытанне аб рэгістрацыі БНФ разглядалася 28 ліпеня 1990 г. у парламенце. Супраць выступала, у прыватнасці, парламенцкая камісія па законнасці. Яе старшыня — міліцэйскі генерал Мечыслаў Грыб — сцвярджаў, што перашкодай для рэгістрацыі БНФ з’яўляецца сімволіка Фронту.

Станіслаў Шушкевіч, наадварот, лічыў, што парламенту трэба зарэгістраваць БНФ, каб змыць з сябе «ганебную пляму».

За рэгістрацыю прагаласавалі 103 дэпутаты, 40 былі «супраць» — пры кворуме ў 170 парламентарыяў.

У жніўні 1990 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» з’явіўся артыкул прыхільніка Фронту, народнага дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Яўгена Новікава. Аўтар пераканаўча даказаў неабходнасць рэгістрацыі БНФ з юрыдычнага і палітычнага пунктаў гледжання.

Кіраўніцтва ж БНФ не зацыклівалася на пытанні рэгістрацыі. У жніўні 1990 г. у гутарцы з карэспандэнтам часопіса «Крыніца» Паўлам Якубовічам Пазняк заявіў, што Фронт і так папулярны. Рэгістрацыя ж, па словах Пазняка, была патрэбна перш за ўсё для працы фонду «Дзеці Чарнобыля».

## Частковы поспех

Фронт рашуча ўступіў у кампанію па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР у сакавіку 1990 года.

Выбары ў Вярхоўны Савет XII скліканння былі прызначаны на 4 сакавіка 1990 г. Да іх пачатку праграма БНФ пад назвай «Галасую за Беларусь!», ухваленая Соймам 9 снежня 1989 г., значна радыкалізавалася.

25 лютага 1990 г. прыхільнікі БНФ правялі мітынг з удзелам дзясяткаў тысяч людзей, а Зянон Пазняк дамогся жывога эфіру на тэлебачанні.

Аднак надзеі БНФ на вялікую колькасць мандатаў не спраўдзіліся. У Вярхоўным Савеце, які налічваў каля 350 дэпутатаў, прыхільнікаў БНФ было 27 чалавек.

## «С вамі, таваріщ Позняк, можно і нужно работать…»

Але ў выніку выбараў у Вярхоўным Савеце XII склікання была створана дэпутацкая група БНФ — першая палітычная апазіцыя ў найвышэйшым прадстаўнічым і заканадаўчым органе. Прадстаўнікі апазіцыі выступалі ля мікрафона, у знак пратэсту пакідалі Авальную залу, патрабавалі даць слова ў Вярхоўным Савеце фермерам і працоўным, рабілі заявы ў СМІ па ўсіх важных пытаннях, актыўна працавалі ў акругах.

Асабліва плённай была заканадаўчая дзейнасць. Амаль заўсёды дэпутацкая група БНФ прапаноўвала альтэрнатыўныя законапраекты. Апазіцыя заслугоўвала павагу ідэйных апанентаў. Так, дэпутат Аляксандр Лукашэнка 20 чэрвеня 1990 г. пры абмеркаванні кандыдатуры Пазняка на пасаду старшыні камісіі, якая павінна была займацца пытаннямі рэпрэсій і рэабілітацыі, заявіў, што з Пазняком можна і трэба працаваць. А калі б, дадаў Лукашэнка, «мы верылі ў сваю ідэю, як верыць у сваю Пазняк, у нас праблемы б вырашаліся прасцей».

З цягам часу адносіны Лукашэнкі да БНФ пагоршалі. На Кангрэсе народа Беларусі 11 верасня 1993 г. гэты дэпутат назваў апазіцыю БНФ «25—30 нацыяналістамі», якія «захлёстваюць у Вярхоўным Савеце ўсе здаровыя ідэі». Падчас спробы БНФ арганізаваць усеагульны палітычны страйк у лютым 1994 г. Аляксандр Лукашэнка казаў, што Фронт «на гарбах рабочых хоча прарвацца да ўлады».

## Сіла вуліцы

Адной з форм дзейнасці БНФ былі вулічныя акцыі пратэсту.

Пачатак паклалі падзеі 30 кастрычніка 1988 г., калі ў Мінску быў разагнаны мітынг, прысвечаны Дню памяці продкаў (Дзяды). 19 лютага 1989 г. на стадыёне «Дынама» БНФ арганізаваў шматтысячны мітынг з выкарыстаннем «Пагоні» і бел-чырвона-белых сцягоў. Мітынг быў дазволены ўладамі, якія планавалі правесці яго ў сваім рэчышчы. Аднак кіраўніцтва БНФ перахапіла ініцыятыву. У 1989 г. — 26 красавіка і 30 верасня — былі праведзены шматлюдныя мітынгі, прысвечаныя чарнобыльскай бядзе.

7 лістапада 1990 г. БНФ арганізаваў альтэрнатыўнае шэсце з нагоды дня Кастрычніцкай рэвалюцыі. Былі сутыкненні з праваахоўнымі органамі. Ставіліся пытанні аб прыцягненні арганізатараў мітынгу да крымінальнай адказнасці і пазбаўленні дэпутацкіх мандатаў.

Прыхільнікі БНФ бралі ўдзел у маніфестацыях вясной 1991 г., а таксама падчас знакамітых жнівеньскіх падзей. У 1992 г. БНФ рашуча падтрымаў шахцёрскі рух, а ў 1993 г. выводзіў сваіх прыхільнікаў на вуліцы супраць далучэння Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бяспецы.

У лютым 1994 г. БНФ разам са свабоднымі прафсаюзамі браў удзел ва ўсебеларускім палітычным страйку супраць падзення жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Вялікую ролю адыграў БНФ ў арганізацыі «Мінскай вясны — 96» (Дзень Волі 24 сакавіка 1996 г., шэсце 2 красавіка і Чарнобыльскі шлях 26 красавіка 1996 г.). Тыя дэманстрацыі мелі вялізны рэзананс унутры краіны і за яе межамі.

## Стаўка на змену ўлады

Вялікія надзеі БНФ ускладваў на 1992 год.

Менавіта ў гэтым годзе, лічылі прыхільнікі БНФ, мусіў адбыцца рэферэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенні выбараў на падставе праекта закона, распрацаванага парламенцкай апазіцыяй БНФ. Была сабрана неабходная колькасць — 450 тысяч — подпісаў. Аднак кіраўніцтва Вярхоўнага Савета зрабіла ўсё, каб рэферэндум не адбыўся. Спаслаўшыся на шматлікія парушэнні падчас збору подпісаў, Вярхоўны Савет забараніў рэферэндум.

## Спробы забараніць

Пры Кебічу мелі месца спробы афіцыйна забараніць БНФ.

18 мая 1993 г. з такой ініцыятывай выступіў дэпутат Вярхоўнага Савета, кіраўнік дэпутацкай групы камуністаў Міхаіл Качан. На яго думку, БНФ «праводзіць антынародную, антыдзяржаўную палітыку, выступае супраць суверэнітэту», адабраючы стварэнне «чарнаморска-балтыйскай дзяржавы».

За гэтую экстравагантную для 1993 г. ініцыятыву прагаласавалі ўсяго 80 дэпутатаў, з іх Качана падтрымалі 45, супраць выказаліся 25. За прагаласаваў і будучы першы старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Валерый Ціхіня. Устрымаліся: мітрапаліт Філарэт, Міхаіл Цесавец, які ў 1995 г. кіраваў «эвакуацыяй» апазіцыі ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г. Супраць пастановы прагаласавалі Васіль Даўгалёў, Станіслаў Шушкевіч і інш. Не галасавалі: Мікалай Дзямянцей, Іван Ціцянкоў, Віктар Шэйман.

Наступныя электаральныя кампаніі аказаліся няўдалымі для БНФ.

На прэзідэнцкіх выбарах у 1994 г. Зянон Пазняк атрымаў каля 13% галасоў і заняў трэцяе месца. Не спраўдзіліся надзеі БНФ і на парламенцкія выбары 1995 г., на якія Фронт выставіў паўтары сотні кандыдатаў. Шматлікія прадстаўнікі БНФ выходзілі ў другі тур, але ў Вярхоўны Савет не трапілі.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі парламенцкая апазіцыя стала паслядоўным крытыкам беларускага кіраўніка. Пік супрацьстаяння прыйшоўся ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г., калі прыхільнікі апазіцыі абвясцілі галадоўку ў парламенце супраць рэферэндуму, ініцыянаванага Лукашэнкам. Уначы сілавікі ў масках уварваліся ў залу і вывалаклі дэпутатаў.

## З’езды

За дзесяць гадоў свайго існавання ў якасці цэласнага руху Беларускі Народны Фронт правёў шэсць з’ездаў.

На другім з’едзе ў сакавіку 1991 г. былі ўнесены змены ў назву Фронту: зніклі словы «за перабудову». У маі 1993 г. на III з’ездзе БНФ было вырашана стварыць адпаведную партыю, каб мець заканадаўчыя падставы для ўдзелу ў выбарах Вярхоўнага Савета.

V з’езд (ліпень 1995 г.) тычыўся абрання новага кіраўніка Фронту. Упершыню ў Пазняка з’явілася альтэрнатыва, акрамя яго на пасаду старшыні Сойму БНФ балатаваліся яшчэ два чалавекі, у тым ліку і Юрый Хадыка.

На VI з’ездзе БНФ у верасні 1999 г. галоўнае пытанне зноў палягала ў выбары кіраўніка Фронту. Канкурэнтам Зянона Пазняка стаў Вінцук Вячорка. Прэтэндэнты атрымалі амаль роўную колькасць галасоў. Кампрамісу дасягнуць не ўдалося, што прывяло неўзабаве да расколу БНФ і падзення яго ўплыву.

**Аляксандр Кур’яновіч**

кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Звольнены з Акадэміі кіравання. Працуе грузчыкам у Мінску.

# У святле бліскавіц

Вінцэсь Мудроў.
Апавяданне.

Накупаўшыся дасхочу, Юрэк любіць ляжаць на беразе Вяллі і ўдыхаць саладжавы травяны водар. Пах апаноўвае свядомасць, кружыць голаў, блытае думкі. Застаецца толькі прыплюшчыць веі ды заснуць, але тут які-небудзь казытлівы мураш пачынае паўзці між лапатак...

Вось ён ізноў падняўся, пачухаў лагчынку на спіне. Вялля, як тое люстра, адбівае ў сабе кусты і высокае неба. Рака наогул выглядала б нерухомай, калі б не бутэлька з-пад кока-колы, што павольна плыла па люстранай роўнядзі.

Звычайна пустыя поліэтыленавыя бутэлькі плывуць бокам, а гэтая стоймя, вытыркнуўшы з вады чырвоны корак. Можа, яна поўная? Хтосьці ўзяў на рэчку, паклаў у ваду ля берага, каб не грэлася на сонцы, а плынь падхапіла... Някепска б было глынуць халоднай колы.

Юрэк крэхча, падхопліваецца на ногі, кідаецца з разгону ў ваду. Некалькі добрых грабкоў — і ён ужо на сярэдзіне ракі. Але ж дарма мітусіўся: колы ў бутэльцы няма. Але яна даволі цяжкая, і ў яе, падобна, штосьці паклалі.

Пакуль чабохтаўся ў вадзе, выглядаючы, што там ляжыць на донцы, пакуль плыў, заграбаючы адной рукой, цячэнне аднесла яго ад пясчанага берага, і давялося прадзірацца скрозь зарасці жыгучай крапівы.

Увесь апечаны — нават носу дасталася, — Юрэк падбег на цырлах да старога месца, дзе ляжала адзежа, і агледзеў бутэльчыну. На дне быў пластылін, ці яшчэ якая халера, а ў сярэдзіне, падобна, ляжала скручаная ў трубку паперчына. А можа, там грошы? Ці якія наркотыкі? Ходзяць чуткі, што з таго боку мяжы пускаюць па вадзе кантрабандныя цыгарэты ў поліэтыленавых торбах, а на гэтым баку пераймаюць. Праўда, дзед кажа, што гэта лухта, бо памежнікі асвятляюць раку пражэктарамі, а можа, і сетку ўпоперак ракі нацягнулі, каб лавіць кантрабанду. Бутэлька цёмная, вызначыць дакладна, што там ляжыць, немагчыма. Паспрабаваў адкаркаваць — спачатку рукамі, а потым зубамі, — корак не паддаецца. Быў заліты нейкім клеем: каб вада не трапіла. Тут патрэбны быў нож, і Юрэк, азірнуўшыся, спехам нацягнуў саколку і порткі.



**Вінцэсь Мудроў**
пісьменнік. Нар. у 1953. Жыве ў Полацку.

Дзед Базыль сядзеў на лаўцы каля хаты і прывязваў гачкі да лёскі. Рыхтаваўся да вечаровай рыбалкі. Прывязаўшы чарговы гачок, дзед адкусіў канцы лёскі мініяцюрнымі абцужкамі, падняў галаву і са здзіўленнем убачыў унука, які шыбаваў да хаты, трымаючы ў руках пластыкавую пляшку. Звычайна Юрэк адразу ж пасля сняданку выпраўляўся на рэчку і вяртаўся блізу абеду. Сёння ж не паспеў выйсці з хаты — і ўжо бег назад.

— Што здарылася? — крыкнуў дзед Базыль, але ўнук не адказаў і, падляцеўшы, выхапіў з ягоных рук абцужкі.

Потым дзед з лёгкай трывогай назіраў, як унук, задыхана сапучы, прабівае абцужкамі бутэльку і рэжа цвёрды поліэтылен каля корка. Нарэшце абеpуч трасе бутэльку, і з яе выпадае скручаная ў трубку паперчына. Юрэк са скрухаю пераводзіць дых. Чакаў, відаць, што з бутэлькі выпадзе штосьці больш цікавае і каштоўнае.

— Па рацэ плыла, — паведамляе Юрэк, разгортвае паперку і, мрукнуўшы: — Па-расейску напісана, — бязгучна мыліць вуснамі.

— Ну ты ж прачытай, што там, — азываецца дзед.

— Ды тут нейкі бульбаш ліст піша, немаведама каму, — крывіцца ўнук і, набраўшы паветра ў лёгкія, панылым голасам чытае: «Мяне завуць Максім. Я вучуся ў восьмым класе... — як і я, — заўважае Юрэк, і працягвае: — У мяне ёсць мара — убачыць марскую далячынь. Таму і кідаю гэтую бутэльку ў Вяллю, у спадзеўцы, што даплыве да Балтыйскага мора і маракі падымуць яе на борт свайго цеплахода...» — Ага, больш маракам няма чаго рабіць, — хмыкае Юрэк, з вясёлым дакорам хітнуўшы галавой. — «Я зірнуў на мапу. Ад нашай вёскі да мора дзесьці 730 кіламетраў. Так што, хутчэй за ўсё, да Балтыкі мой ліст не даплыве. І калі хто раптам выцягне бутэльку з ракі, просьба паведаміць — дзе гэта надарылася. Цікава ж даведацца, ці далёка яна заплыла».

— Ну гэта можна, — мармыча Юрэк, — вярнуся дахаты, напішу гэтаму Максіму: «Вылавіў бутэльку ў Вяллі насупраць хутара Ужупіс Няменчынскага староства. І як вылазіў з ракі ад пятак да носу абстрыкаўся крапівою».

— Ты глядзі, аж з Беларусі прыплыла, — дзед Базыль патузаў прывязаны да лёскі гачок. — Бутэлькі далёка не заплываюць. Іх звычайна на рачных выгінах да берага прыбівае. А якраз на мяжы Вялля ого-го якія лукавіны закладвае. А дзе бутэльку ўкінулі?

— Напісалі. Вёска Жодзішкі Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

— Жодзішкі? — знянацку пажвавеў дзед Базыль. — А ну дай зірнуць.

Перахапіўшы аркушык, ён наставіў на яго падслепаватыя вочы і, уздыхнуўшы, прамовіў:

— Акуляры трэба.

Юрэк яшчэ крыху пакруціўся ў двары, выпіў хатняга квасу са збана і зноў выправіўся на рэчку. І дзед Базыль крыкнуў яму ўслед:

— Ты ўсё ж напішы гэтаму хлопцу!

Стары падхапіў паперку, пайшоў у хату па акуляры. Некалькі разоў запар перачытаў тэкст і доўга пацірaў грудзіну — тое месца, дзе парывіста тахкала сэрца.

Неба пад вечар зацягнула нізкімі хмарамі, стала душна, і за далягладам, у тым баку, дзе Вільня, раскацiста грымнула. Перад навальніцай дзеду заўсёды нядужылася: шчымела сэрца і кружылася галава. Таму ён не пайшоў ставіць донкі, а адразу ж пасля тэлевізійных навін з вохканнем палез на вышкі. Там, на мяккай сяголетняй канюшыне, яны з унукам спалі.

Спачатку нібыта панурыўся ў сон. Нават не ў сон, а ў нейкую хваравітую замарач, калі нібыта спіш, але чуеш кожны зык, нават мышыны піск на другім канцы адрыны. І прымроілася спачатку высокая ліпа, што расла каля іхнай хаты, а потым змучаны бацькавы твар. Чырвоны, як пасля лазні, з прыліплай да лобу пасмай спалавелых валасоў. Ён ніколі дагэтуль не бачыў бацьку такім страшным, а таму ўжо збіраўся расплакацца, ды маці тыцнула ў рукі цяжкі ўслон: «Нясі, Васілёк, бо мусім да цямноцця сабрацца». Іхны конь Лазунок, дарэшты знясілены, валок звязаныя бярвёны, якія пакідалі на зямлі хвалістыя барозны. Схапіўшы ўслон за ножку, ён валок яго па тых барознах, сюд-туд падаючы і размазваючы па твары гарачыя слёзы. Нарэшце Лазунок, гучна пырхнуўшы, спыніўся, і бацька хвастануў каня пугай. Конь узняў пысу, зірнуў на яго, малога, перапужаным чырвоным вокам. Нібыта прасіў абароны. Ласкавы шэры конік, які вазіў яго на сваім карку, а потым з удзячнасцю браў трапяткімі губамі з далоні акраец чэрствага хлеба. «Не бі Лазунка!» — крычыць ён бацьку і чуе бразгат дзверцаў. У квадраце зырка асветленага вакна ўзнікае і зноў зліваецца з цемрай Юркава галава.

— Гэта ты, Юрэк? — дзед Базыль падымае голаў. — Ведаеш што... забяжы ў хату. Там на паліцы, у кухні, пляшачка стаіць. Накрапай мне дваццаць кропель. І вады падлі.

Унук вярнуўся надта хутка, са шклянкай у руках.

— Зараз дождж пачнецца, адразу лягчэй стане. Відаць, цiск падскочыў, — выдыхае дзед, прыклаўшыся да шклянкі, што бліснула фіялетавым святлом. Маланкі жахалі адна за адной.

Юрэк распраміў у сваім куце прасціну, лёг, але тут жа прыўзняўся на локці.

— Дзеду...

— Ну.

— А ты ж, здаецца, жыў у тых Жодзішках у дзяцінстве.

Дзед хвіліну, а можа і больш, маўчаў, нарэшце азваўся:

— Жыў... толькі не ў саміх Жодзішках, а непадалёк, на хутары. Прыгожая была мясціна. Хата на беразе Вяллі стаяла, а поруч старая ліпа з буслянкай. Бацька пасеку трымаў, дык улетку ліпа аж гула ад пчолаў...

— А чаму ж вы адтуль з'ехалі, калі там было так добра?

Дзед ізноў адказаў не адразу.

— Самохаць мы б адтуль ніколі не з'ехалі. Ды абставіны прымусілі, — дзед Базыль зморана ўздыхнуў. — Аднойчы, дасвецця, да нас нейкі чалавек завітаў на роваре, штосьці сказаў бацьку і тут жа з'ехаў. Бацька вярнуўся спалатнелы, прыхапіў з-пад лаўкі сякеру і на хату палез — дах разбіраць.

— А што той чалавек паведаміў? — унук пачухаў апечаныя крапівой галёнкі, якія цяпер страшэнна свярбелі.

— Сказаў, што нас у спісы ўнеслі. На адсяленне. Вось бацька і ўзяўся раскідваць хату.

— А куды адсяляць збіраліся? — запытаўся ўнук пад гучны выбух грому.

— Як куды... у Сібір, ці ў Казахстан, ці яшчэ якое задуппе.

Гэтым разам грымнула, падобна, над самай адрынай. Юрэк нават прыхаваўся пад коўдру, але потым грымнула цішэй, і ён ізноў падаў голас:

— А навошта было хату раскідваць?

— Вырашылі на новае месца перабірацца. Вось твой прадзед за два дні яе і раскідаў.

— І што — адзін?

— Матчын брат дапамагаў, дзядзька Міхал. Удвух і раскідалі, ды бярвенне да берага падцягнулі. Мне тады толькі шэсць гадоў стукнула, але таксама дапамагаў дарослым. Конік у нас быў, нядошлы. Добрага каня Саветы забралі, а гэтага, дзякаваць богу, пакінулі. Цягне бярвенне да ракі і з капытоў валіцца. Потым бацька з ім на беразе развітаўся, папрасіў прабачэння, што хвастануў пугай, — дзед са здзіўленнем пачуў у сваім голасе па-старэчы слязлівыя ноткі.

— А што, каня з сабой не ўзялі?

— Куды ж яго возьмеш? Дзядзьку Міхалу пакінулі. А таго на наступным тыдні ў Краснаярскі край звезлі, разам з сям'ёй. Жонка ў 56-м годзе вярнулася, а дзядзька недзе там, на Енісеі, і сканаў.

— Ну дык... хату да вады падцягнулі, а далей што? На баржу пагрузілі?

— Ды якая там баржа. Плыт звязалі, на яго гнілыя дошкі з вокнамі паклалі, у мех колькі курэй запіхнулі — і па Вяллі паплылі. Плылі ўночы, а ўдзень бацька плыт да прырэчных кустоў прывязваў ды спаў, як сноп. А на чацверты дзень усім змардаваўся, кінуў прыс, якім ад берага адпіхваўся, нас і прыбіла да пясчанай водмелі. Да той самай, дзе ты купаешся. Маці пайшла ў суседнюю вёску, вярнулася і кажа: «Тут ужо Літва». Мы і абселі на гэтым беразе.

— А чаму вас хацелі выселіць? Прадзед што, забіў кагосьці? — Вочы ўнукавы ўражана бліснулі ў святле фіялетавай маланкі.

— Куды там забіў. Проста не спадабаўся савецкай уладзе, каб яна спрахла. Можа, у калгас не хацеў ісці, а можа, што на Сталіна сказаў, а можа, таму зганялі з котлішча, што быў беларусам.

— Якім беларусам? Мы ж палякі!

— Запісаны палякамі, але ж гаманілі па-простаму. Бацька мой наогул лічыў сябе беларусам. Казаў, як быў зусім малы, у Жодзішкаўскім касцёле новы ксёндз аб'явіўся. Прамаўляў казані на тутэйшай мове, дык народу ў касцёл набівалася як завязаць. Палякам гэта, вядома, не спадабалася, і кінулі небараку на нары. Звалі Вінцэнтам, а прозвішча, на жаль, забыўся. Бацька з тых часін і замілаваў усё беларускае. У Вільню ездзіў, газеты прывозіў. Вось яму бальшавікі гэта і прыгадалі.

— А палякі што, таксама, як і савецкая ўлада, ганялі беларусаў? — запытаўся ўнук з інтанацыяй недаверу.

— Ну не так ужо... Скажам, калі ты поркаешся ў зямлі ды маўчыш, цябе не чапаюць. А калі заявіш, што ты беларус ды пачнеш школ, ці яшчэ чаго, дамагацца, адразу ж у Лукішкі накіруюць. Ну а Саветы, тыя зусім былі, як цяпер кажуць, адмарозкамі. Таму сёння Беларусь ёсць, а беларусаў у ёй ужо няма.

Дзед замоўк, а ўнук, закінуўшы рукі за патыліцу, з непаразуменнем залыпаў вачыма: як гэта Беларусь ёсць, а беларусаў няма? Вунь, маці казала, праз іх калісьці ў краму не было як убіцца — у Вільню за каўбасой прыязджалі. І куды ж цяпер падзеліся? У іхным 8-м «А» беларусаў таксама нямашака. Палова палякамі запісаныя, а палова расейцамі. Не... трэба не ліста пісаць, а самому ў Жодзішкі выпраўляцца. І месца тое наведаць, дзе продкі жылі.

— Я там быў аднойчы, яшчэ за Саветамі, — прамовіў, нібыта чытаючы Юркавы думкі, дзед Базыль. — Ліпа стаіць, толькі без буслянкі. Студня толькі захавалася. Гнілая ўся... Пастаяў я там, шапку зняўшы, глынуў вады са студні ды назад на аўтобус...

Па шыферным даху буйным шротам ударылі градзіны. Ударылі знянацку, і ў дзеда Базыля спалохана сціялася сэрца. Ён паспрабаваў уздыхнуць, але дыханне перахапіла. Стары сцепануўся, ратуючыся ад удушша, паспрабаваў клікнуць унука, натужліва застагнаў, але той не пачуў. Цела абмякла, стала бязважкім. І падалося дзеду Базылю, што ён ляжыць на плыце, апусціўшы руку ў раку. Струмені пяшчотна казычуць пальцы, плот паволі плыве па Вяллі, і нехта кліча яго, шасцігадовага, дзіўным словам «дзед».

— Ух ты! — захоплена выдыхае Юрэк і наструньвае вуха. Ніколі ў жыцці ён не чуў такога шалёнага грукату. Так, глядзіш, градзіны і шыфер праб'юць.

Але ў тую ж хвіліну грукат аціхае і ператвараецца ў замарачны пошум дажджу.

«А чаму я раней не чуў гэтай гісторыі з плытом?» — няўцямна думае Юрэк. Дакладней, ён чуў, але ўрыўкамі, ды і не вельмі цікавыя яму былі тыя дзедавы прыгоды.

«Вярнуся дадому — падаб'ю бацьку ў Жодзішкі з'ездзіць. Тут жа недалёка, адно што візу трэба аформіць. І дзеда з сабой прыхопім».

— Чуеш, дзеду? У жніўні ў Жодзішкі злётаем.

— Дзед! — ізноў гукае ўнук, але дзед маўчыць — заснуў пад шорхат дажджу.

Унук закідвае рукі за патыліцу і шчасна пасміхаецца. Ціхая радасць напятай струной дзынькае пад сэрцам. Наперадзе яшчэ два месяцы вакацый. Два месяцы сонечных ранкаў, цёплых дажджоў, начных маланак, пунсовых палымніц, што адбіваюцца ў неспакойнай вадзе, і салодкіх сноў на духмяной канюшыне.

# Апошнюю волю Рыгора Барадуліна выканалі

15 лістапада пры дапамозе авіяцыі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях ва Ушачах усталявалі помнік на магіле народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Яшчэ ў 1995 годзе ў вершы «Прашэнне» Барадулін напісаў пра тое, каб на яго магіле замест помнікаў быў усталяваны валун з крыжам. Пра тое жаданне ён ізноў згадаў у інтэрв'ю журналісту Сяргею Шапрану ў 2011 годзе.

У ліпені 2015-га ў вёсцы Кублічы, дзе ў мясцовай школе навучаўся Васіль Быкаў, знайшоўся неабходны валун.

Выканкам дапамог яго перавезці. Ва Ушачах выдзелілі пляцоўку і стварылі ўсе ўмовы для працы скульптара Ігара Засімовіча.

Блізкія паэта вырашылі, што на тым камені мусіць быць Еўфрасіннеўскі крыж, бо сам Барадулін падкрэсліваў сваё паходжанне з Полаччыны.

Але як усталяваць валун, які важыць 2,5 тоны, на магілу? Барадулін ляжыць у цэнтры могілак. Машына туды не пад'едзе.

Старшыня Ушацкага райвыканкама Віктар Родзіч і Саюз беларускіх пісьменнікаў накіравалі просьбу на імя кіраўніка МНС Уладзіміра Вашчанкі. Той і даручыў кіраўніку авіяцыі Алегу Якаўлеву дапамагчы ў вялікай справе.

На мінулым тыдні супрацоўнікі МНС былі ва Ушачах, абвязалі валун тросамі і сталі чакаць лётнага надвор'я. Яно стала спрыяльным 16 лістапада.

Верталёт МІ-8 вылецеў з мінскага аэрадрома МНС у панядзелак удзень і праз паўгадзіны ўжо прызямліўся ва Ушачах. Да гэтага моманту два дзясяткі мясцовых жыхароў падрыхтавалі падмурак для помніка — па ланцугу перадалі рукамі 800 вёдраў з цэментам.

Валун паднялі верталётам і складаным віражом апусцілі паміж дрэвамі.

СГ




**Валун на магілу Барадуліна ставілі з дапамогай авіяцыі.**




**Камень узялі ў вёсцы Кублічы, дзе быў ахрышчаны і вучыўся ў школе Васіль Быкаў. Надпіс на помніку — «Рыгор Барадулін. Сын. 1935—2014». Паводле задумы скульптара Ігара Засімовіча, пляцоўку каля помніка заклалі жорнамі.**




**Каля дзвюх з паловай тысяч студэнтаў БДУ за тыдзень падпісаліся пад петыцыяй супраць платных адпрацовак, якія неўзабаве мусяць увесці ва ўніверсітэце. Студэнты аднеслі гэтыя подпісы рэктару БДУ Сяргею Абламейку.**



**У Грэнландыі раскалоўся адзін з найбуйнейшых ледавікоў. Навукоўцы папярэджваюць, што гэты ледавік змяшчае дастаткова лёду, каб павысіць узровень сусветнага акіяна на 50 сантыметраў, і ён растае ўсё хутчэй.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Ты мяса ясі?
— Не.
— А рыбу?
— Таксама не.
— Вегетарыянец?
— Бюджэтнік.

* * *

— Які твой любімы колер?
— Фіялетавы.
— Фіялетавы?! Гэта ж колер дэпрэсіі.
— Ну, мяне колер купюр у 500 еўра не ўводзіць у дэпрэсію.

* * *

— Тата! Купі мне планшэт.
— А чароўнае слова?
— Вольга.
— Што «Вольга»?
— Твая сяброўка.
— Які планшэт хочаш, сынок?

* * *

Пакуль 10 разумнікаў думаюць, як раку пераплысці, дурань ужо на тым беразе.

* * *

– Усе свае зберажэнні пускаю на падарожжы.
– Зноў маршрутка падаражэла?
– Так.

* * *

Самыя правільныя адносіны пачынаюцца зімой. Калі вы спадабаліся адно аднаму ў такой колькасці адзежы, шапцы і з чырвоным носам — гэта дакладна каханне!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Яшчэ раз аб дзяльбе Беларусі.** Дзякуючы вайне Масквы з Варшавай, наша зямля пабілася на тры кавалі. «Сярэдняя Літва» з сталіцай Вільняй, на каторую цягне руку этнаграфічная Літва. Гарадзеншчына і часць Міншчыны без усялякага вялікага цэнтру, апроч Горадні, — гэта мае́ць адысці да Польшчы. Мінск, Віцебск, Смаленск, Магілёў сядзяць у лапах расійскіх камісараў. Усе гэтыя часці захопленыя вайной, каторая іх канчаець руйнаваць.

**«НН». №4. 1920.**

**«НН»: новая старонка.** «Нашу Ніву» не ўключылі ў падпісны каталог. Мы даведаліся пра гэта ад чытачоў, якія спрабавалі падпісацца на газету. Праверылі: сапраўды няма. Пры гэтым ніякіх паведамленняў ад «Белпошты» рэдакцыя не атрымлівала. «НН» пачне паіншаму выдавацца і распаўсюджвацца. А наш галоўны пратэст — беларуская мова. Мовы не забароніш. Мовы не заглушыш.

**«НН». №43. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**
© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.11.2015.
Замова №4346.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15043